


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

4 ЖНІЎНЯ 2000г. № 31/4063 КОШТ 95 РУБ.







*Генадзь Цітовіч з Уладзімірам Пузынем, 1985 г.*



*Творчы вечар, 1979 г.*

# Незабыўны

## 7 ЖНІЎНЯ СПАЎНЯЕЦЦА 90 гадоў З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Генадзя ЦІТОВІЧА

Цітовіча ведалі людзі розных пакаленняў. І называлі яго па-рознаму: дзядзька Генадзь, бацька хору, Генадзь Іванавіч... І гаварылі пра яго заўсёды з усмешкай. І ўспамінаюць — з усмешкай. Дарэчы, тых, хто яго памятае, — нямала, хаця мінула ўжо амаль паўтара дзесятка гадоў, як захапляючы, яскравы, нялёгкі зямны шлях гэтага выдатнага чалавека завяршыўся.

Так, яго ўспамінаюць з усмешкай: светлы, жыццярадасны й жыццядайны быў чалавек. Вялікі, шчыры, шчодры, энергічны, якім бывае жнівень, сонечны і рупны, — месяц яго народзінаў.

Хтосьці ўспамінае каларытную скарамоўную гаворку Цітовіча; хтосьці — яго незласлівыя, але "прыперчаныя" анекдоты; хтосьці — камічныя сітуацыі, у якіх неаднойчы апыньваўся па-дзіцячы непасрэдны, па-геніяльнаму рассеяны Генадзь Іванавіч. Хтосьці з цягам часу пранікаецца ўсё большай павагай да яго рыцарскага служэння беларускай народнай песеннай культуры, яго нястомнай дзейнасці як хормайстра, збіральніка, захавальніка і праваднікa ў сучаснае жыццё скарбаў роднага фальклору.

Старонкі даведнікаў і энцыклапедый адлюстроўваць яго адметны творчы шлях. Ад студэнта Віленскага універсітэта і Віленскай кансерваторыі, захопленага збіраннем беларускіх народных песень, да музычнага рэдактара колішняга абласнога Баранавіцкага радыё, кіраўніка многіх самадзейных мастацкіх калектываў і стваральніка славутага хору вёскі Новае Падлессе. Ад удзелу ў этнаграфічных экспедыцыях Акадэміі навук Беларусі да стварэння Дзяржаўнага народнага хору, які цяпер мае званне Акадэмічнага і з годнасцю носіць імя свайго бацькі, доўгі час нязменнага мастацкага кіраўніка Г. Цітовіча, чый удзячны вучань, спадкаемца, пераемнік Міхась Дрынеўскі бліскуча працягвае творчую справу Генадзя Іванавіча — старэйшага калегі, Настаўніка.

Няўрымслівы, таварыскі, гаваркі, дасціпны, рознабакова адукаваны чалавек, якога любілі ў сялянскай бяседзе, якога цанілі ў прафесійным асяроддзі. Які дзень свайго нараджэння зазвычай сустракаў у лодцы, вандруючы па адной з маляўнічых беларускіх рэчак... Гэта — жывая памяць пра Генадзя Іванавіча.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**
*Фота У. КРУКА*



*Генадзь Цітовіч і Віктар Ройда, 1976 г.*

ЗГАДКІ

# Эльвіра ГЕРАСІМОВІЧ: "Несці свой крыж і верыць"

***Беларуская акадэмія мастацтваў святкуе юбілей жанчыны, якая была рэктарам гэтай вышэйшай навучальнай установы больш за чвэрць стагоддзя. У лёсе Эльвіры Герасімовіч ёсць шмат цікавага, што засталося за кулісамі яе яскравай кар'еры.***

**— Вы былі сведкай шматлікіх гістарычных падзей, раскажыце пра сябе.**

— Нарадзілася я ў Мінску ў 1925 годзе, а ў 1937 у нашу сям'ю прыйшла бяда, якая прыходзіла ў многія сем'і таго часу — арыштавалі бацьку. Мы з мамай адразу адчулі на сабе цяжар кляйма сям'і "ворага народа". Маму, якая была навуковым супрацоўнікам Акадэміі навук, звольнілі з работы, нас выселілі з кватэры. Цяжэй за ўсё было перажыць тое, што іншыя людзі баяліся з намі нават размаўляць. Такі быў час.

**— А як да вас ставіліся ў школе?**

— Па-рознаму. Аднак у школе я адчувала часам спачуванне з боку настаўнікаў. Я магла знайсці бутэрброд у сваёй парце, але ніколі не ведала, хто яго туды паклаў. Тады людзі баяліся нават сваіх пачуццяў.

Сёння маладое пакаленне наўрад ці зразумее, што азначала тады быць непрынятай у камсамол. Быць поўнасцю выкрасленай з таго асяродка, з таго грамадства, у якім жывеш. Гэта было для мяне самай вялікай трагедыяй.

**— Як жа вы гэта перамаглі?**

— Мы з мамай вырашылі, што я павінна вучыцца лепш за ўсіх, выконваць грамадскія заданні найлепшым чынам. Я павінна была даказаць, што мы вартыя свайго грамадства людзі і сапраўдныя патрыёты. Вось гэтая задача, як бы пастаўленая на будучыню, потым вельмі дапамагла мне.

Ведаеце, было шмат супрацьлегласцей у нашым жыцці, але далёка не ўсё было дрэнна. Мне шанцавала на добрых людзей. Напрыклад, калі пачалася вайна, я была ў піянерскім лагеры пад Бабруйскам. У Мінск вяртацца было ўжо нельга, і нашы піянерважатыя не пакінулі лагер, пакуль не адправілі ўсіх дзяцей у эвакуацыю. А некаторыя засталіся з намі і надалей. Можна сёння колькі заўгодна жартаваць над словамі песні: "...Прежде думай о родине, а потом о себе..." Калі б тады думалі толькі аб сабе, можа, не было б столькі перамог у нашым жыцці.

**— Эльвіра Пятроўна, напэўна, як усе дзяўчынкі, вы марылі быць артысткай?**

— Не. У мяне не было такой мары. Я хацела быць хірургам, асабліва ў час вайны. Але я вельмі л[illegible]а мастацкае чытанне, любіла дэкламаваць літаратурныя тэксты. Я многа чытала і ведала на памяць вершы і прозу. У шпіталі мяне часам вызвалялі ад некаторых работ, каб я хадзіла па палатах і чытала ўголас параненым.

**— А што вы чыталі, якіх аўтараў?**

— Кажэўнікава "Сакавік-красавік", Талстога "Рускі характар", вершы Алігер, Панчанкі, Янкі Купалы, Вольгі Бергольц, Сіманава, верш Броўкі пра Мінск, Пушкіна, урыўкі з "Ціхага Дона"... шмат чаго.

**— Як жа вы прыйшлі да тэатра?**

— Медінстытута ў Мінску тады не было, быў толькі педагагічны, і я паступіла на французскае аддзяленне. А ў 1945 годзе ў будынку педінстытута адкрылі тэатральны інстытут. Як я ўжо сказала, я любіла дэкламаваць, і каб ведаць законы мастацкага чытання, паступіла туды.

**— Куды вы пайшлі працаваць пасля інстытута?**

— У свой час я была сакратаром камсамольскай арганізацыі ў інстытуце, потым была абрана першым сакратаром райкама камсамола ў Мінску. Але праз два гады збегла ў аспірантуру ў Маскву, у ГИТИС. Гэта быў вельмі важны і цікавы перыяд у маім жыцці, які я правяла поруч з такімі буйнейшымі прадстаўнікамі тэатральнага мастацтва, як А. Папоў, Ю. Завадскі, А. Ганчароў, М. Кнебель. Усіх не пералічыць. Студэнты, якія праходзілі ў мяне практыку, вельмі вядомыя зараз асобы: рэжысёр Марк Захараў, тэатразнаўца Юрый Гарабец, Наталля Крымава і многія іншыя.

**— Вы з'яўляецеся адным з аўтараў трохтомнай гісторыі беларускага тэатра... У якім перыядзе свайго жыцця вы працавалі над гэтым матэрыялам?**

— Я вельмі ўдзячна вядомаму беларускаму тэатразнаўцу У. Няфёду за тое, што ён настойліва раіў мне паступіць у аспірантуру і працаваць над даваенней гісторыяй тэатра імя Я. Коласа. У той час трэба было ўсё збіраць па крупінках — ніякага матэрыялу амаль не было. Я скончыла аспірантуру, абараніла дысертацыю, атрымала кваліфікацыю настаўніка майстэрства акцёра, рэжысёра-педагога і тэатразнаўцы.

Праз год мне прапанавалі пасаду загадчыка сектара літаратуры і мастацтва ў апараце ЦК КПБ. Працаваць побач з такімі людзьмі, як К. Мазураў, П. Машэраў, Т. Кісялёў, было для мяне добрай школай жыцця, школай кіраўніцтва і зносін з людзьмі.

**— А як жа тэатральны інстытут?**

— Я ніколі з ім не развітвалася. Увесь гэты час я выкладала там. Звычайна я жартую, што, як увайшла я ў наш інстытут у 1945 годзе, так ніяк не магу выйсці.

**— Эльвіра Пятроўна, па-мойму, вы былі першай жанчынай у Саюзе, якая адважылася стаць рэктарам?**



— Так, але не ў Саюзе, а толькі сярод ВНУ мастацтваў. Дагэтуль на Беларусі не было ніводнай жанчыны — рэктара. Калі ў 1968 годзе мне прапанавалі пайсці на пасаду рэктара Дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, я, безумоўна, вельмі хвалявалася і сумнявалася, а потым падумала: "А чым я горш за мужчыну". І вырашыла даказаць, што змагу.

**— Перад нашай сустрэчай я размаўляла з некаторымі вашымі выпускнікамі. Усе яны расказвалі розныя гісторыі, але было і тое, што абагульняла іх. Ваша слова мела для іх вялізную значнасць, а ваша адзнака здавалася строгай, але справядлівай.**

— Так, я была патрабавальнай. Можа быць, нават і жорсткай, калі гэта тычылася вучобы ці нейкіх норм чалавечай маралі. Добрай я імкнулася быць, а вось добранькай — не. Воля, працавітасць — вось што трэба артысту. Гэта страшэнна цяжкая і вельмі залежная ад абставін прафесія. Ён павінен умець чакаць, калі не атрымоўвае ролю, і самастойна падтрымліваць творчую форму, а для гэтага трэба мець моцную волю. Галоўнае ў акцёрскім жыцці не поспех, не кветкі і не апладысменты, а ўменне трываць. Несці свой крыж і верыць.

**— Ці варта сёння казаць пра крызіс тэатра?**

— Калі згадаць усю гісторыю сусветнага мастацтва, то яно заўсёды развівалася, як электракардыяграма. Былі росквіты і заняпады. Разбурыўся Саюз, змянілася ўся сістэма. Ці магчыма, каб тэатр заставаўся такім, якім быў, і ці трэба гэта? Мы атрымалі свабоду і не ведалі пэўны час, што з ёй рабіць. Гэта адчулася і ў тэатры. Спачатку пачался замілаванне свабодай — узнікалі розныя, не заўсёды апраўданыя эксперыменты. Любое адкрыццё патрабуе выпрабавання часам. Тое ж самае адбываецца з мастацтвам. Нешта адыходзіць, а нешта мае працяг, развіццё. Свабода патрабуе вялізнай адказнасці з творчай глыбіні.

**З юбілярам гутарыла Ларыса ГУЛЯКЕВІЧ**

*На здымку: Э. Герасімовіч. 1984 г.*

---

ся з шэрагу іншых. Той жа "Магутны божа" напачатку, тое ж зачытванне дакладаў. Анатоль Грыцкевіч нагадаў пра гістарычныя даты нашай дзяржаўнасці, Ніл Гілевіч і Міхаіл Чыгір — пра магчымасць эканамічнай незалежнасці, Генадзь Грушавы разважаў пра вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Ваенна-палітычны аспект існавання суверэннай Беларусі разгледзеў былы міністр абароны Павел Казлоўскі. Асабліва ўзнёсла віталі дэлегаты прывітанні з'езду, дасланыя прэзідэнтам Чэхіі Вацлавам Гавелам, прэзідэнтам Рады БНР Івонкай Сурвілай, лідэрам Народнага руху Украіны Генадзем Удавенкам і, вядома ж, Васілём Быкавым. Аднак усе чакалі агучвання тога, дзеля чаго ўсе і сабраліся, — Акта незалежнасці Беларусі. Ён прагучаў а 17 гадзіне.

"Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь, усведамляючы адказнасць за будучыню Беларусі, напамінаючы, што Беларусь з'яўляецца дзяржава-заснавальніцай ААН, грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права, заяўляем: Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці (ад Полацкага



княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь). Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты — свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна... Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда, сведчым Богам дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву, абвяшчаем дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа, прызнаём не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі, заклікаем міжнародныя арганізацыі, урады дэмакратычных дзяржаў, сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Заклікаем суайчыннікаў згуртавацца вакол ідэй Акта незалежнасці".

**Вадзім ДОЎНАР**

---

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## "Пейзаж з мосцікам" вярнуўся на радзіму

Трывалыя творчыя сувязі наладжаны паміж Гомельскай абласной арганізацыяй СМ і Санкт-Пецярбургскім Саюзам мастакоў Расіі. Летась у Буда-Кашалёве прайшоў міжнародны пленэр жывапісцаў, прысвечаны памяці народнага мастака СССР, акадэміка жывапісу, земляка Яўсея Маісеенкі, які доўгі час жыў у Ленінградзе. Тады ж у Буда-Кашалёве адкрылася і мастацкая галерэя імя Маісеенкі. Аснову яе склалі работы пленэрыстаў. А вось ніводнага твора Маісеенкі на Беларусі не аказалася. Днямі гэты прабел ліквідаваны. Старшыня абласной арганізацыі СМ Анатоль Отчык пабываў у Санкт-Пецярбурзе. Вучань Маісеенкі Алег Марушкін перадаў яму ў дар адну з ранніх работ Маісеенкі "Пейзаж з мосцікам". Карціна прызначана для буда-кашалёўскай галерэі. А Марушкін запрошаны на міжнародны пленэр жывапісцаў, які адбудзецца ў канцы жніўня ў Тураве.

## Эпічнасць і мажор

На Тураўшчыне, у міжрэччы Прыпяці і рачулкі Сцвігі, размясцілася маляўнічая вёска Азяраны. Тут нарадзіўся сябра Саюза мастакоў Мікалай Кулеш. Зараз жывапісец жыве ў Гомелі, але на роднае Палессе не забываецца. Яно — ледзь не ў кожным пейзажы Куляша. Сёння лепшыя работы мастака экспануюцца на персанальнай выставе, якая адкрыта ў карціннай галерэі абласной арганізацыі СМ.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Выставы, вернісажы...

У абласным краязнаўчым музеі адкрылася выстава антыкварыяту і жывапісу XVIII—XIX стагоддзяў. Віцябчане і госці горада займелі магчымасць убачыць унікальныя экспанаты, якія ў свой час былі перададзены Віцебску Беларускім мастацкім музеем, а таксама меднае ліцё з калекцыі віцябчаніна Вацлава Федаровіча. Партрэтны жывапіс прадстаўлены палотнамі Крамскога, Паленава, Хруцкага.

А ў гарадской ратушы адкрыўся вернісаж прадстаўніка сучаснай віцебскай мастацкай школы Барыса Хесіна. Экспазіцыя яговых работ "Правінцыйныя нацюрморты" складаецца з трох раздзелаў: першы аўтар прысвяціў роднаму гораду, другі і трэці — вялікім галандскім мастакам і Аляксандру Пушкіну.

**Вера КАДУШКА**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Бліскучае завяршэнне сезона

Напрыканцы тэатральнага сезона, 29 ліпеня, артысты Брэсцкага тэатра лялек парадавалі гледачоў яркім прэм'ерным спектаклем "Белая вішня" паводле п'есы Святланы Клімковіч. І наогул мінулы месяц для брэсцкіх лялечнікаў быў вельмі насычаным. Яны не толькі рэгулярна паказвалі спектаклі ў родным горадзе, але і паўдзельнічалі ў двух міжнародных фестывалях — у Францыі і Германіі. І на абодвух мелі вялікі поспех.

Нарэшце, яшчэ адна немалаважная падзея адбылася ў жыцці тэатра: яго дырэктару і мастацкаму кіраўніку, старшыні абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры Міхасю Шавелю было прысвоена званне "Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь". Менавіта з імем Шавеля звязаны творчыя поспехі тэатральнага калектыву.

## Калі вершы спяваюцца

Свае канцэрты папулярны ансамбль "Сябры" нярэдка пачынае або заканчвае патрыятычнай песняй "Чысціня". Напісана яна кампазітарам Мікалаем Сацурам на верш паэта Васіля Сахарчука, які працуе адказным сакратаром жабінкаўскай райгазеты. Цікавасць да творчасці Васіля Сахарчука выказваюць і самадзейныя кампазітары. Адзін з іх, Павел Карнееў — зямляк паэта. Менавіта іхняя песня "Халадок-недавер" у выкананні маладой спявачкі Аксаны Штык стала пераможцай фестывальнага конкурсу "Усе мы родам з дзяцінства", які адбыўся нядаўна ў Баранавічах. Зараз гэтая песня гучыць па радыё і тэлебачанні, і асабліва часта — на канцэртах у горадзе, дзе нарадзілася.

**Сымон АКСЕНІН**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## "Валянцін" гаворыць па-беларуску

На міжнародны фестываль аматарскіх тэатраў, які адбудзецца ў літоўскім горадзе Тракай, адправіўся народны тэатр "Валянцін" Магілёўскага гарадскога Цэнтра культуры і вольнага часу. Гэты творчы калектыў невыпадкова прадстаўляе на фестывалі нашу рэспубліку, бо менавіта ён стаў лаўрэатам рэспубліканскага фестывалю "На тэатральных скрыжаваннях", які праходзіў у Слуцку на пачатку года.

У Тракаі народны тэатр пад кіраўніцтвам заслужанага работніка культуры В. Ермаловіча пакажа спектакль "Камедыя". Дарэчы, тэатр, у рэпертуарны скарбонцы якога ўжо больш за 30 пастановак, ставіць свае п'есы толькі на роднай мове.

## Фестываль харавых спеваў

Нядаўна ў польскім горадзе Улацлавіку прайшоў міжнародны музычны фестываль харавых спеваў. На фестываль была запрошана і афіцыйная дэлегацыя з Магілёўшчыны. У склад яе ўвайшлі кіраўнікі ўпраўленняў культуры вобласці і раёнаў, а таксама дырэктар абласнога краязнаўчага музея Віктар Аненкаў. Музычную культуру вобласці на гэтым фестывалі прадстаўляў мужчынскі хор "Унія" абласной філармоніі. На працягу трох дзён гэты калектыў выступаў з аншлагам. У ходзе фестывалю адбыліся і творчыя сустрэчы. Дырэктар абласнога краязнаўчага музея дамовіўся з польскімі работнікамі культуры аб паказе ў Магілёве найбольш каштоўных экспанатаў з польскіх экспазіцый.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Залы для філармоніі

Распачаты рамонт будынка былога кінатэатра "Гродна", які рашэннем аблвыканкама летась перададзены Гродзенскай абласной філармоніі. Дагэтуль філармонія (дарэчы, адзіная ў рэспубліцы) не мела ўласнай канцэртнай залы. У будынку, які размешчаны ў цэнтры горада, мяркуецца абсталяваць дзве залы: малую — для камерных канцэртаў — і вялікую. Дырэктар філармоніі Эдуард Ціховіч абяцае, што ў аднолькавым будынку будуць наладжвацца канцэрты не толькі мясцовых артыстаў, але і беларускіх ды замежных зорак.

**Лілія НАВІЦКАЯ**



ЧАСАПІС

# Вясковая літаратура: мінуўшчына і будучыня

**Беларуская літаратура нарадзілася ў вёсцы. Інакш і быць не магло. І хаця працэс урбанізацыі краіны адбываўся даволі паскоранымі тэмпамі (усе рваліся ў горад), асабліва пасля вайны, літаратура, у кажуху і лапцях, сваімі каранямі глыбока ўрасла ў вёску. І да цяперашняе пары вясковыя тэмы і малюнкі хвалююць пачынаючых. І не толькі іх. Прычына вясковасці літаратуры крыецца ў спрадвечнай традыцыйнасці беларускага ладу жыцця. Паўстагоддзя таму ці не большасць беларусаў жыла ў вёсках і мястэчках. Зразумела, што і большая частка будучых беларускіх пісьменнікаў тамсама. Таму цалкам зразумела, якія вобразы і матывы панавалі ў галовах нашай творчай эліты: вёска, яе людзі, іх жыццё.**

**Такім чынам, вясковая літаратура (дамовімся, што гэта — цалкам станоўчы тэрмін) пераважала. І што тут кепскага? Наша сялянскае нутро патрабавала падобнага героя, простага чалавека, мужыка. Многім не падабаецца вясковае паходжанне нашай літаратуры, маўляў, занадта нізка, спрошчана-прымітыўна. Пункт гледжання "городских", што нарадзіліся ў баразне, а зараз баяцца запэцкацца. А літаратура перш за ўсё і павінна выдзяляцца народнасцю, сваімі адносінамі да духоўнай спадчыны нацыі. А хіба вясковец не народ? І зараз трэцяя частка нашага насельніцтва працуе на зямлі. Тым больш, сяляне і калгаснікі заўсёды былі і ёсць сінанімічна сугучныя са словамі "народ" і "народнасць". Чыноўнікі і бізнесоўцы някя ў гэту катэгорыю не трапляюць (стэрэатыпна). Але ж усе мы разам народ! Шкада толькі, што эстэтычна прыгладжаны ідэал нашага сялянства (як разумнага і духоўна багатага асяроддзя) так і застаецца ідэалам. А што зробіш — здрабнелі людзі. Пляскайце ў ладкі, маладыя эстэты, вам ёсць на што наракаць.**

**Але, здрабнелі. Эканоміка краіны таксама канае пад плотам. Эстэтычны вобраз вёскі (хто хоча — калгаса) разбіты ўшчэнт еўнымі рэаліямі: прычынна-беспрычыннай гарэлкай-сівухай, антысанітарыяй, струхнелымі пабудовамі, мовай-трасянкай і галечай (добра — дах ёсць над галавой). Бясспрэчна, жывуць на вёсках і гаспадары. Але колькасць гаротнікаў не зменіш і ці зменшыш.**

**Звычайна маладыя вучацца ў старэйшых. Так і ў літаратуры. І тэма вёскі, пераважаючая ў мінулым, прыцягвае ўвагу. Маладыя хочуць уведаць, чаму так пільна і пад рознымі вугламі ўглядаліся ў вёску іх старэйшыя сябры. Што іх так цікавіла ў вясковым чалавеку і ці ўсё яны расказалі пра яго? Толькі бачыць ім прыходзіцца не тое, пра што яны чыталі і што хацелася б убачыць. Адсюль разгубленасць і няведанне куды падацца. Здаецца, трэба працягваць традыцыю (вясковую тэматыку), паказваць перспектыўнасць і прыгажосць вёскі, еўных моцных мужчын і здаровых жанчын. Але рука не падымаецца.**

**Безумоўна тыя, каго вабіць натуралізм і набліжаны да яго ў нейкай ступені рэалізм, могуць задаволіцца існуючым станам вёскі. Але калі мы гаворым пра Літаратуру, не трэба забывацца на эстэтычны кампанент мастацтва. Толькі прашу не блытаць з дурным выч варным эстэцтвам, якое ёсць не што іншае, як прыкрыццё асабістага бескультур'я і непісьменнасці. У прынцыпе вёска (як магічны скарб, здольны задаць жыццё літаратурнаму працэсу) памерла. Памерла духоўна. Гэта адміністрацыйная адзінка не вытрымала ўціску цывілізацыі і, паралельна, урбанізацыі. На цяперашнім этапе развіцця грамадства патрэбны зварот да новых форм людской лучнасці. На выбар гарады, вялікія і маленькія. Пажадана апошнія, бо нашы "шэсць сталіц", дзе вечны тлум і гармідар, не маюць эстэтычнай цнатлівасці па сваёй сутнасці і не могуць быць носьбітам духоўнасці, якую варта выкарыстоўваць у літаратуры. А ў малых гарадах, у якім бы месцы Еўропы яны не знаходзіліся, заўсёды бачна само жыццё. Там не мёртвае існаванне і не хуткасветны бег, а паступовае, сапраўднае, паўнакроўнае жыццё з нараджэннем, вяселлем, чуткамі, добрымі сваркамі. На такіх маленькіх гарадках-сем'ях трымаецца дзяржаўнасць. Там жывуць людзі, якія разумеюць сэнс жыцця. Чаму б іх не ўвесці ў нашу літаратуру? Не трэба, пачаткоўцы, пісаць пра нязведанае: вайну, застой. Хай скажуць тыя, хто перажыў. Наша ж справа стварыць новы ідэал беларускага жыцця, беларускай сям'і, адносін людзей. Ствараць такім, якім нам самім хочацца яго бачыць. Новы ідэал не азначае абвяржэнне старога. Падмурак павінен быць заўсёды. Трэба толькі напачатку разабрацца, дзе сапраўдная беларуская традыцыйнасць і мінуўшчына, а дзе штучнасць, прыдуманая і лжывая ўзведзеная ў ступень нечага вартага.**

**Аляксей ЧУБАТ**

ЮБІЛЕІ

# Велічная постаць Вітаўта Вялікага

## 650 ГАДОЎ АД НАРАДЖЭННЯ

Беларуская мінуўшчына пакінула нам шмат Асобаў, якімі мы можам ганарыцца не з меншай падставай, як ганарюць свaіх дзеячаў англічане і французы, немцы і чэхі. Бо значнасць іх, як, скажам, Францішка Скарыны, не толькі для нас саміх, але і для ўсёй цывілізаванай Еўропы.

Фактам з'яўляецца тое, што беларусы, як нацыя, найбольш годна і плённа здолелі заявіць пра сябе, калі мелі незалежную дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае, у якім, як вядома, беларусы былі вызначальнай нацыяй. І не толькі па колькаснай перавазе сярод іншых, але і па сваёй важкасці ў вызначэнні дзяржаўнай, вайсковай і культурніцкай палітыкі, у тым ліку і ў абсягах мовы, якая тады пачувалася гаспадыняй паўсюль, пачынаючы ад вялікакняскага двара і канчаючы шляхцянскімі засценкамі, хатамі земляробаў і рамеснікаў.

На гэты год прыпадае юбілей дзяржаўнага мужа, роўнага якому ў нашай мінуўшчыне няма. Бо значнасць у гісторыі валадароў вызначаецца не па іх дэкларацыях і добрых намерах, а па тым, што яны рэальнага зрабілі для народа, якім волею лёсу кіравалі. Перыяд валадарання Вітаўта Вялікага — ёсць найвышэйшы ўздым беларускай дзяржавы, якая пры ім сягала межаў ад Балтыйскага да Чорнага мора.

Нягледзячы на жыццёвыя складанасці, асабісты ўдзел у многіх крывавых бітвах, Вітаўт пражыў восемдзесят гадоў (1350-27.IX.1430). А з іх, што ўвогуле падзіўляе, 38 гадоў быў вялікім князем ВКЛ.

З улікам урокаў гісторыі сёння правамерна паставіць пытанне: як жа ўдалося яму захаваць сябе і, галоўнае, сваю дзяржаву, бо гэта быў надзвычай складаны, багаты на падступствы, хітрасці і змовы час, а Вялікаму княству даводзілася ўвесь час адстойваць сваю самастойнасць, у тым ліку і ад Польшчы, на чале якой пасля шлюбу з Ядвігай стаў Вітаўтаў брат Ягайла.

Адказ такі: найперш дзякуючы сваёй мудрасці, уменню праводзіць надзвычай гнуткую, але не халопскую перад іншымі палітыку, у аснове якой не здрада ўласным нацыянальным інтарэсам, а, наадварот — іх бясспрэчны прыярытэт, нават святасць. Таксама, як для кожнага шаноўнага чалавека найперш блізка і важна **сваё** — свая хата, жонка, дзеці. Калі няма гэтага — значыць пустадомак, кот памаўзлівы, а не Гаспадар. А яшчэ больш трэба дбаць пра **сваё** кіраўніку дзяржавы, бо няма большай ганьбы і самазнішчэння, як здрада нацыянальным інтарэсам, пераўтварэнне сябе ў марыянетку...



Дзяржаўнаму мужу, палітыку немагчыма быць святошам, увасабляльнікам нейкай просценькай, без зігзагаў і збочванняў лініі. Апраўданнем усяму можа быць дзяржаўны і нацыянальны інтарэс, святое служэнне свайму народу. Вітаўту Вялікаму нават даводзілася, зыходзячы з гэтага, пераходзіць спачатку з праваслаўя ў каталіцтва, а потым наадварот, спачатку пайсці на саюз з Тэўтонскім ордэнам, а пасля разам з новымі саюзнікамі нанесці яму сакрушальную паразу ў Грунвальдскай бітве. Такой жа неадназначнай была і ягоная ўсходняя палітыка. Каб умацаваць тут свае пазіцыі, Вітаўт аддаў дачку Соф'ю за вялікага маскоўскага князя Васіля, што, аднак, не перашкодзіла яму адбіць у маскавітаў Смаленск, некалькі разоў хадзіць у наступ на Ноўгарад, а потым (тройчы) аж на самую "залатагаловую". Аднак калі справа дайшла да бітвы не на жыццё, а на смерць, дзе маглі сцячы крывёю абодва вялікія славянскія народы, Вітаўт праявіў мудрасць і, не пачынаючы крывавай сечы, заключыў з Васілём І мір, паводле якога мяжа Вялікага княства Літоўскага з Масковіяй пралегла па рацэ Угле, на якой тады сышліся, а потым паразумеліся і мірна разышліся войскі абедзвюх дзяржаў.

Нацыянальнай дзяржаўнай палітыцы за Вітаўтам было падпарадкавана ўсё, у тым ліку і рэлігійна-канфесійнае жыццё. Усведамляючы надзвычайную значнасць гэтага фактару ў канкрэтнай для Беларусі геапалітычнай сітуацыі, для вызначэння яе незалежнай ад суседзяў палітыкі, Вітаўт дамогся стварэння самастойнай праваслаўнай мітраполіі на чале з Цымблакам і з цэнтрам у першасталіцы ВКЛ горадзе Навагрудку.

У 1429 і 1430 гадах ён спрабаваў атрымаць ад папы Рымскага каралеўскую карону, і толькі падступствы і інтрыгі палякаў перашкодзілі яму ў гэтым. Аднак і без такой фармальнай адзнакі свае велічы Вітаўт стаў сапраўды Вялікім па значнасці асабістага ўнёску ў станаўленне і разбудову дзяржавы, бо пры ім, як падае васемнаццацітомная Беларуская энцыклапедыя (т. 4, с. 201), ВКЛ "стала самай магутнай дзяржавай у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе".

Значнасць асобы Вітаўта абумовіла ўвагу да яго не толькі гісторыкаў, але і прадстаўнікоў усіх мастацтваў. Дзеля прыкладу нагадаю, што некалькі гадоў таму пастаўлены Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы спектакль па п'есе Аляксея Дударава "Вітаўт" і па сённяшні з'яўляецца на першай драматычнай сцэне рэспублікі ці не самым папулярным. Невыпадкова і выніковая кніга светлай памяці Міколы Ермаловіча "Беларуская дзяржава — Вялікае княства Літоўскае" выдадзена з рэпрадукцыяй на вокладцы карціны мастака Алеся Марачкіна "Вітаўт Вялікі".

Сёлета спаўняецца 650 гадоў ад нараджэння вялікага беларускага Уладара. З гэтай нагоды выдавецтва "Бацькаўшчына" выпусціла адмысловы насценны каляндар, выкананы мастаком Міколам Купавам. Ён не ўпершыню ганаруе постаці тых, што склалі велічную славу нашага народа, — выявы беларускіх дзеячаў, увасобленыя Купавам, упрыгожваюць многія бібліятэкі і іншыя асяродкі культуры. Няма сумнення, што Вітаўт Вялікі зойме сярод іх сваё годнае месца.

**Яўген ЛЕЦКА**

ГОСЦІ

# "Прафесар Хігінс" з Сан-Францыска

***Скончыўся чарговы сезон у Беларускім дзяржаўным музычным тэатры. Сярод яго падзей адмыслова вылучылася адна (дакладней, дзве, якія адбыліся ў адзін вечар на сцэне сталічнай філармоніі). Народная артыстка Беларусі Наталля Гайда ладзіла свой бенефіс. Бенефіс, які прынёс асалоду ад сустрэчы з яе іскрыстым талентам, а таксама ад сюрпрызу, падараванага гледачам (і, як мне здаецца, самой Наталлі Віктараўне) у той вечар.***

Бенефіс Прымадонны беларускай аперэты стаўся цудоўным святам вакальнай музыкі. У выкананні Н. Гайды гучалі не толькі арыі з аперэт, але і чароўныя рамансы. На сцэне і ў зале панаваў дзівосны настрой, які гераіні вечара дапамагалі ствараць нашы вядомыя артысты-спевакі: У. Пятроў, А. Мельнікаў, З. Вяржбіцкая, Г. Казлоў, В. Мінгалёў.

Сам канцэрт Н. Гайды — гэта падзея. А ў той вечар быў яшчэ і сюрпрыз. Наталля Віктараўна прызналася, што да апошняга моманту не верыла, што ўсё спраўдзіцца. Але, на вялікае шчасце, усё ж адбываюцца чароўныя сустрэчы, сустрэчы праз многія гады. У бенефісе Наталлі Гайды ўзяў удзел... заслужаны артыст Беларусі Рыгор Харык — госць з Сан-Францыска!

Ён літаральна выбег на сцэну. Ён усміхаўся, але ж у вачах, здавалася, сталі слёзы радасці. Ад сустрэчы з родным Мінскам, з калегамі, з публікай. Такія ж эмоцыі ахоплівалі і залу: упэўненая, што не было сярод гледачоў ніводнага раўнадушнага. Уражанне было такое, як быццам мы вярнуліся на 8 гадоў назад: Р. Харык знешне зусім не змяніўся. Думаю, чытачам — аматарам аперэты не трэба прадстаўляць гэтага артыста, які многія гады быў вядучым салістам Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі, пакуль у 1992 годзе не з'ехаў у ЗША.

Сцэны, дуэты, арыі ў выкананні Н. Гайды і Р. Харыка гучалі ў другой частцы канцэртнай праграмы...

На другі дзень мне ўдалося пагутарыць з Рыгорам Ільічом — нягледзячы на тое, што часу зусім не было (назаўтра ён адлятаў з Мінска) і што артыста літаральна "разрывалі на часткі".

**— Рыгор Ільіч, якія ўражанні скла ліся ў вас ад наведвання роднага тэатра?**

— Я вельмі ўсхваляваны: я сустрэў сваіх калег. А калі сядзеў у зале на спектаклі, уяўляў, што стаю на сцэне і іграю ролю... Мне хочацца засярodзіць увагу вось на чым: калі я ад'язджаў, гэта быў другі тэатр пасля опернага. Цяпер тэатр не на належным узроўні, ён заслугоўвае большага. Ва ўсім свеце разумеюць, што музычны тэатр — гэта вельмі складанае мастацтва. Яму патрэбны грошы. Беларусь — незалежная краіна, яна павінна мець такі тэатр, і гэтаму трэба дапамагаць. Больш плаціць грошай, а, адпаведна, больш патрабаваць. А яшчэ неабходна апаратура: я з болем адчуў, што зноў у зале дрэнна чуваць — людзей, якія стараюцца.

**— А якое ўражанне ў вас ад Мінска?**

— Ад Мінска? Ну, гэта ж мой родны горад, я тут нарадзіўся. Я хаджу па вуліцах, успамінаў... Я не люблю тут "Макдональдс". У Амерыцы — гэта "забягалаўка", праўда, высакаякасная; тут гэта каштуе столькі ж — а не ўсе могуць сабе дазволіць... Я думаю, што беларуская ці руская кухня не горшыя.

**— Вы спяваеце ў оперы Сан-Францыска, а чаму не ў аперэце?**

— Таму што яе там няма.

**— А вы не сумуеце па ёй?**

— Мы, канечне, стараемся па магчымасці спяваць і аперэту. Але, зразумела, я сумую. Калісьці ў Амерыцы была аперэта: Фрымль і Стотгардт, Роджэрс. Але амерыканцы без яе абыходзяцца, яна папулярная больш у Еўропе.

**— Якія тэатры былога СССР вядомыя ў Амерыцы?**

— Там ведаюць два тэатры: Вялікі і Кіраўскі. А тое, што тут, у Мінску, ёсць добрыя спевакі, што ў Кіеве спяваюць цудоўна, — там шырокай публіцы, на жаль, невядома.

**— Рыгор Ільіч, як арганізуецца праца ў амерыканскім оперным тэатры?**

— Там ёсць пастаянны хор, аркестр. А салістаў запрашаюць з усяго свету, нават з Расіі. А аднойчы я спяваў з Дамінга, праўда, ён многа, а я — не вельмі, але ж ён — оперны спявак, а я — аперэтачны. Увогуле ў мяне там іншае жыццё. Я — педагог, і даволі ням рэнны педагог. У мяне ёсць свая студыя. Мае вучні спяваюць у Нью-Йорку, у Еўропе. Вось гэта маё шчасце! Сапраўды, я добры педагог, таму што сам прайшоў праз усе цяжкасці з голасам, я ведаю, як іх пераадольваць.



**— А як вы прыйшлі да педагагічнай дзейнасці?**

— Усе рана ці позна да яе прыходзяць. Я гэта люблю і ўмею. Атрымліваю асалоду. Але педагагічная дзейнасць адымае многа здароўя, голасу... І, нягледзячы ні на што, я люблю яе, гэта — мая біяграфія.

**— Для якой публікі вы спяваеце?**

— Для рознай: і для рускіх, і для амерыканцаў. Таму спяваю і на рускай мове, і на англійскай.

**— Рыгор Ільіч, а чым адрозніваецца амерыканская публіка ад нашай?**

— Там вельмі ўдзячная публіка. Людзі прыходзяць пасля спектакля, паціскаюць рукі. Тут такога няма. Але ж беларуская публіка больш музычна адукаваная. Не ведаю, як зараз, пра гэта вам меркаваць, а раней было так. У Амерыцы гледачы аддаюць вялікія грошы за білеты: 150, 200, 300 долараў. Для іх паход у тэатр — падзея, яны ганарацца: "Я быў у оперы". І мы, спевакі, павінны адпаведна працаваць.

**— А ці пойдзе дачка па вашых слядах?**

— Дачка мая — будучы адвакат. Я ёй ганаруся больш за ўсё. Яна скончыла цудоўную школу, цяпер заканчвае універсітэт у Берклі. Яна добрая дзяўчынка, прыгожая, цудоўна танцуе. І такая татава дачка! Яна тут атрымала выхаванне, я ёй вельмі ганаруся!

**Гутарыла Вольга НАВАЖЫЛАВА**

*На здымку: заслужаны артыст Беларусі Рыгор Харык з колішнімі калегамі.*

***Валерыя Шумілава ў Мінску багата хто ведае, і наогул гэтае імя выбуховае, паколькі тоіць у сабе шмат энергіі, іншым разам небяспечнай для чынавенства самых розных узроўняў... Урач, навуковец, грамадскі дзеяч. Сабраў багатыя звесткі аб уздзеянні радыенуклідаў на здароўе, прааналізаваў дэмаграфічную сітуацыю на Беларусі і прыйшоў да цвёрдай высновы: дыягназ хранічнай прамянёвай хваробы, альбо сіндром хранічнай стомленасці і імуннай дысфункцыі — больш чым правамоцны. Хвароба адсутнічае ў класіфікатары Міністэрства аховы здароўя, але, на думку Шумілава, існуе і ім ва ўласнай урачэбнай практыцы ўстанаўліваецца, іншым разам пад назовам "хвароба Шумілава". Менавіта гэтае "свавольства" — адна з прычын звальнення Шумілава з мінскай паліклінікі N 12. Урач падае іск аб узнаўленні на працы. Судовае разбіральніцтва выходзіць за межы звычайнага адміністрацыйнага канфлікту. "Справа ўрача" доўжыцца чацвёрты месяц. За ёй сочаць пісьменнік, прэзідэнт Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза "Чарнобыль" Васіль ЯКАВЕНКА і журналіст Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ...***

# Васіль ЯКАВЕНКА: "Хвароба Шумілава" — ці не выклік багам?"

**— Васіль Цімафеевіч, напрыканцы чэрвеня мы абодва аказаліся на пасяджэнні калегіі Мінскага гарсуда. Што прывяло вас туды?**

— Цікаўнасць і неабыякавасць да гэтага неўтаймаванага чалавека, дзівака і пракуды. Я ведаю доктара Шумілава як па працы ў газеце "Набат", у тыя гады, калі газета выходзіла (а ён быў навуковым аглядальнікам), так і ўвогуле — па грамадскай рабоце. Так што па абавязку службы і сумлення я там аказаўся.

**— А я знаёмы з Шумілавым па Міжнароднай акадэміі геранталогіі, у якую мы абодва ўваходзім. Думаю, невыпадкова прэзідэнт Беларускага аддзялення гэтай акадэміі прафесар Мікалай Арынчын, паміраючы, завяшчаў яму завяршыць справу свайго жыцця. А ён жа дамагаўся станаўлення дзяржаўнай сістэмы тварэння здароўя ў Беларусі. Ці ведалі вы аб гэтым?**

— Ведаў, нават праз газету "Набат" прапагандаваў яго ідэі. Але я ведаў і тое, што ў мінскай паліклініцы N 12 Валерый Шумілаў прыкладна тым і займаўся — тварэннем здароўя. Усім, хто прыходзіў да яго на пасяджэнні клуба "Самааздараўленне", іменна гэта і далягала. Мне асабіста цяпер надзвычай цікава, як, чаму, з-за чаго такія добрыя адносіны, што былі да восені мінулага года ва ўчастковага ўрача Шумілава з галоўным урачом Аляксандрам Сакалянскім, аказаліся скасаванымі. Прычыны ж перамен у пачуццях галоўнага ўрача на пасяджэннях суда не раскрыты, хоць да іх, мне здаецца, неаднойчы і падыходзілі блізка, асабліва ў працэсе разгляду справы ў судзе Кастрычніцкага раёна.

**— Дык вы і на тых пасяджэннях таксама прысутнічалі? Там, відаць, для Шумілава сітуацыя складвалася зусім кепска?**

— Наадварот... Ягоную справу разглядала жанчына, надзеленая аналітычным розумам, спрактыкаваная, сумленная, прынамсі, мне так здавалася, — Маргарыта Рыштоўская. Я шчыра зайздросціў, бо не меў такога суддзі, калі судзіўся з прафесарам Я. Івановым, гематолагам, які доўгі час адмаўляў шкодны ўплыў радыяцыі на арганізм чалавека. Суддзя-касталом у Маскоўскім раёне рашуча адмятаў усе нашы спробы даказаць, з якім сацыяльна небяспечным клiентам (па матывах фальсіфікацыі) суд мае справу. А ў вышэйшых судах, калі мы туды кінуліся, нас агарошылі: маўляў, беларускія суды навуковымі спрэчкамі не займаюцца.

Іншая справа ў Шумілава. Суддзя Рыштоўская з вялікай увагай слухала і паспяхова вяла навуковыя спрэчкі па прынцыповых пазіцыях, прадастаўляючы слова экспертам. Было 7 пасяджэнняў, і на іх суд адхіліў амаль усе абвінавачванні, выстаўленыя А. Сакалянскім супраць Шумілава. Быў момант, калі шалі вагаў Феміды выразна схіляліся на карысць істца. Якраз тады разгляд справы збліжаўся да фіналу. І тады не Шумілаву, а галоўнаму ўрачу раптам стала дрэнна, ён схапіўся за сэрца, паказваючы, што з ім здарыўся прыступ. Суддзя была вымушана перапыніць пасяджэнне да наступнага дня. У адказчыка ад сэрца адразу адлегла, і, на здзіўленне публікі, ён сунуў у зубы цыгарку ды пабег невядома куды. Ён выйграў час і падцягнуў, напэўна, з тылу нейкія ценявыя сілы. Суд не змог абараніць чалавечую і прафесійную годнасць урача.

**— Вам, як пісьменніку, падаплёка судовага працэсу, бадай, бачна лепш, чым нават суддзям. Што вы на гэты конт можаце сказаць?**

— Шумілаў — тэрапеўт, кандыдат медыцынскіх навук; працуючы ў Бабруйску ўрачом "хуткай дапамогі", абараніў дысертацыю, яе тэма: "Дыягностыка пры вострых формах ішэміі ва ўмовах хуткай медыцынскай дапамогі". Ён адкрыты і шчыры чалавек, мае свае захапленні і горача прапагандуе здаровы лад жыцця, соевае малако, жывыя сокі. Пры садзеянні сацыяльна-экалагічнага саюза "Чарнобыль" доктар Шумілаў атрымаў патэнт на вывядзенне радыенуклідаў з арганізма чалавека і агульнае аздараўленне на аснове лячэбнага галадання. Колькі год запар вядзе клуб "Самааздараўленне", у якім нямала тых, каго ён літаральна вярнуў да жыцця. Некаторыя з іх прыходзілі на суд, выступалі ў абарону свайго доктара і настаўніка. Разам з тым падчас працы ў "Набаце" Валерый Мікалаевіч прыахвоціўся да ўдзелу ў розных пасяджэннях і канферэнцыях, палюбіў шырокія форумы, бо яны давалі яму магчымасць задаваць пытанні, выступаць ды яшчэ і трапляць у аб'ектыў тэлекамеры. З аднаго боку — прага пачуць нешта новае, з другога — сябе паказаць! Гэта стала для яго на нейкі час як бы асноўным заняткам. У сваіх выступленнях яму не заўсёды ўдавалася ўтаймоўваць сябе, адсякаць непатрэбныя думкі ці эмоцыі. Чапляхася, так бы мовіць, ціна, штосьці другараднае, і гэта часам шкодзіла яго рэпутацыі.

Калі ён вырашыў пайсці працаваць участковым урачом, мяне гэта вельмі ўсцешыла, я быў рады за яго. У той жа час непакоіла: ці адмовіцца ён ад штодзённай беганіны па канферэнцыях, ці ўрасце ў новую для сябе працу, ці вытрымае на нялёгкай пасадзе доктара? На участку ж ён раней не працаваў, а там свая спецыфіка, свой папяровы калаўрот, і заўсёды чалавек — тварам у твар. Шумілаў, трэба зазначыць, пераадолеў у сабе тое наноснае, хісткае, "маятнікавае" і арганічна ўрос у працу. Вядома, як кожны ўчастковы ўрач, ён мог дапусціць нейкі пралік. Напрыклад, выпісаць інваліду льготны рэцэпт на но-шпу, хаця асноўнае захворванне ў таго но-шпы не патрабавала. Або не вызначыць аднаму з тысячы пацыентаў, канчатковы дыягназ (дарэчы, дагэтуль нікім не вызначаны). Адміністрацыя паліклінікі не рабіла заўваг участковаму ўрачу Шумілаву нават тады, калі, пачынаючы з 1999 года, ён насмеліўся вызначаць таму-сяму з пацыентаў (з пэўнымі сімптомамі захворвання) дыягназ, што азначаў радыяцыйнае пашкоджанне арганізма: "прамянёвая рэакцыя" (па падказцы вядомага спецыяліста ў медрадыялогіі І. Р. Жакава) ці нават "сіндром хранічнай стомленасці..." Але ўсё гэта, на думку Валерыя Мікалаевіча, было не тое, бо напрошваўся дыягназ хранічнай прамянёвай хваробы.

На курсах у Інстытуце ўдасканалення ўрачоў доктар Шумілаў праслухаў лекцыю свайго былога аднакурсніка Уладзіміра Адзінца аб вызначэнні сіндрома хранічнай стомленасці і імуннай дысфункцыі. Дацэнт Адзінец, праўда, не тлумачыў прычын, якія вядуць да захворвання, і Шумілаў пачаў іх шукаць.

Навуковыя абгрунтавальнікі хваробы і гэтакага стану арганізма за мяжой, у радыяцыйна небяспечным штаце Невада, меркавалі (часопіс "Лечащий врач", 1998, N 3), што да захворвання вядзе нейкі нявысветлены эпідэмічны вірус. Ці так гэта? Доктар Шумілаў, зыходзячы з адэкватнасці экалагічных умоў у штаце Невада і постчарнобыльскай Беларусі, а таксама ўласнага вопыту, удакладняе: не вірус, а альфа-часцінкі, гэта значыць радыяцыя.

Пасля гэтага ўжо ў адпаведных выпадках ён пачынае ставіць дыягназ: сіндром хранічнай стомленасці і імуннай дысфункцыі, або яшчэ лепей — "хвароба Шумілава". І тут, на мой погляд, ён меў рацыю. У нас багата чаго не бачаць і не хочуць бачыць. Напрыклад, у бульбе з чарнобыльскай зоны ці блізкіх да зоны раёнаў, якая па нашых радыелагічных вымярэннях прызнана чыстай, глыбей, на мікракленторным узроўні, усё зззяе ад радыяцыі. Гэта засведчылі вучоныя Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук. І з гэтага павінны рабіцца высновы і абгрунтаванні захворванняў. Толькі ж у нас гэтым ніхто не хоча, скажу больш — пабойваецца займацца! Таму і выглядае дзіваком Шумілаў.

Аднак жа заўваг па службе і на гэтым этапе яму не рабілі, хоць усе ягоныя навацыі ў дыягназах, пэўна, выходзілі за рамкі ўзаконенага (ці не ў 1984 годзе?) пераліку хвароб у рэспубліцы. Паўтараю, ніхто з яго тады не спаганяў, але ж апекуны былі насцярожаныя і не выпускалі яго на публічныя медычныя трыбуны, каб, барані Бог, не прапагандаваў таго, што робіць.

Як бы там ні было, але ўчастковы ўрач Шумілаў амаль два гады не меў заўваг па службе — да леташняга кастрычніка. Больш за тое, галоўны ўрач Сакалянскі неаднойчы карыстаўся ласкай Валерыя Мікалаевіча — напрыклад, калі браў у яго матэрыялы для свайго даклада на 1-ым з'ездзе ўрачоў рэспублікі. Альбо ўключаў у справаздачу аб рабоце паліклінікі дзейнасць клуба "Самааздараўленне". Пэўна ж, было кім і чым галоўнаму ганарыцца!

Толькі ў кастрычніку, калі прыйшла чарга пераатэстацыі ўрачоў паліклінікі і Валерый Мікалаевіч увайшоў у пакой камісіі, Аляксандр Уладзіміравіч Сакалянскі неяк холадна і нервова пажартаваў: "Вось не пераатэстуем цябе, Шумілаў, і звольнім з працы!" Жарт галоўнага падаўся Шумілаву грубым і, на жаль, таіў у сабе добрую долю каварства.

Нягоды пачаліся з тэлеграмы-скаргі інваліда Айчыннай вайны М. Чорназіпуннікава на імя прэзідэнта краіны з нагоды непастаўленага яму дакладнага дыягназу. Пасля гэтага галоўны ўрач Сакалянскі проста на вачах ператвараецца з лаяльнага адміністратара і калегі ў злога дэмана. Калі не было да чаго прычапіцца, ён прыбягаў да інсінуацый, фабрыкаваў "спазненні на працу". Іх потым адмяце суд. За нейкіх два месяцы Шумілаў атрымаў дзве вымовы і загад аб звальненні. Праўда, разам з першай вымовай ён атрымаў яшчэ і прэмію за паспяховую працу.

Валерый Мікалаевіч доўгі час ніяк не мог зразумець паводзін галоўнага ўрача паліклінікі — яго праца сапраўды не давала падстаў для рэзкай змены адносін.

Суд адвёў амаль усе цяжкія абвінавачванні ў адрас Шумілава, акрамя аднаго: доктар выходзіў за рамкі ўзаконенага пераліку захворванняў і парушаў такім чынам інструкцыю... А філасофія чыноўнікаў ад медыцыны якраз у тым, што пасля найвялікшай у свеце радыяцыйнай катастрофы ў нашай краіне нічога ў захворваннях не змянілася і не павінна змяніцца, тым больш калі хвароб няма ў недатыкальным рэестры, то і ў жыцці не можа быць, няхай хоць дзесяць чарнобыляў выбухне! Іменна таму "хвароба Шумілава" — ці не выклік багам? А на справе — застой і коснасці, амярцвенню прыглухлай медычнай навукі.

**— І ўсё-такі, Васіль Цімафеевіч, ці стала вам зразумелай прычына псіхатэрору супраць Шумілава з боку адміністрацыі паліклінікі, пра што ён даводзіў на судзе?**

— А памятаеце, у гарадской калегіі ён папрасіў суддзю А. Дулуб далучыць да справы дакумент — нейкі там зварот на імя дзяржсакратара Савета бяспекі В. Шэймана. І папрасіў звярнуць на дакумент асаблівую ўвагу. Ён сказаў: "Напэўна, там — ключык да разумення судовага працэсу і яго прычын".

Вечарам, пасля другога няўдалага фіналу, я патэлефанаваў яму і пацікавіўся гэтым "ключыкам". Ён толькі таго і чакаў! "А вы прыгадайце, — кажа, — высокую дзяржаўную камісію, якая працавала пад кіраўніцтвам акадэміка А. Лабанка? Яна павінна была даць ацэнку эфектыўнасці навуковых даследаванняў, якія выконваліся ў рэспубліцы па змяншэнні і пераадоленні наступстваў аварыі на ЧАЭС. Дык і я таксама, у ліку 30 вучоных, уваходзіў у склад той камісіі". І далей з яго слоў высвятлілася новая, проста батальная карціна.

Камісія ў сваім заключэнні зрабіла шэраг прынцыповых заўваг аб неэфектыўнасці даследаванняў і марнатраўстве сродкаў, што дазволіла Дзяржкамітэту па навуцы і тэхналогіях накіраваць у Савет Міністраў ліст, у якім канстатавалася літаральна наступнае: усё, што прадстаўлена камісіі, дае падставы разглядаць "вынікі работ па раздзелу навуковага забеспячэння рашэння праблем наступстваў чарнобыльскай катастрофы як нездавальняючыя".



В. Шумілаву гэта падалося недастатковым, і падпісваючы рашэнне камісіі, ён выказаў сваю асабістую думку: "За падрыў здароўя насельніцтва Рэспублікі Беларусь павінны быць прыцягнутыя да персанальнай адказнасці вучоныя і некаторыя дзяржаўныя дзеячы: Якаў Кенігсберг, Ігар Ралевіч, Іван Кенік, Уладзімір Цярноў, з пакрыццём іміі страт, што нанеслі дзяржаве".

Але і на гэтым доктар Шумілаў не спыніўся. Адчуваючы важкасць наступнага кроку, ён піша ў Савет бяспекі на імя В. Шэймана і ў Адміністрацыю Прэзідэнта пісьмо, у якім даводзіць пра неабходнасць прыцягнення да персанальнай адказнасці тых жа асоб. Там ёсць такія радкі: "Сітуацыя з Чарнобылем выкарыстоўваецца місіянерствуючымі вучонымі і службовымі асобамі, якія свядома зніжаюць паказчыкі дозавых нагрузак на насельніцтва Беларусі. У нас дапускаюцца высокія ўзроўні забруджвання асноўных прадуктаў харчавання, хлеба, малака, мяса, вады, што прыводзіць да падрыву здароўя і скарачэння працаздольнасці жыцця, спрыяе развіццю хранічнай прамянёвай хваробы з наступнай яе трансфармацыяй у ракавыя пухліны розных органаў".

Не здрадзіў В. Шумілаў сваёй прынцыповай пазіцыі і тады, калі абмяркоўвалася кандыдатура доктара біялагічных навук І. Ралевіча ў члены-карэспандэнты Нацыянальнай акадэміі навук: ён выступіў і даў яму рашучы адвод.

Ну, і скажыце цяпер, як гэтыя людзі павінны былі паводзіць сябе ў адносінах да Шумілава?

**— Пытанне яўна з ліку рытарычных...**

— Тут дарэчы будзе прывесці прыклад з нядаўняй гісторыі. Газета "Набат" на пачатку 1996 года змясціла насычаны фактамі каларытны артыкул "Аб неадпаведнасці Міністэрства па надзвычайных сітуацыях узроўню нацыянальных задач". Цяпер зусім відавочна, што дзяржкамісія на чале з акадэмікам Лабанком па ўсіх пазіцыях пацвердзіла нашы вывады амаль 5-гадовай даўнасці. Але ж міністр І. Кенік тады было кінуўся ў суд абвяргаць нас. Неўзабаве, аднак, зразумеў хісткасць сваёй пазіцыі, забраў заяву.

Наіўна было б думаць, што гэтая група адказных асоб пакіне доктара Шумілава ў спакоі. Тым больш, што ў некаторых з іх ёсць свае блізкія людзі на версе судовай галіны ўлады. Зусім не выключана, што галоўны ўрач

*(Працяг на стар. 12)*

## "Сувой"

**У ліпені рэдакцыя часопіса "Маладосць" адкрыла яшчэ адно імя. Дакладней, адбылося гэта раней, а цяпер, выдаўшы кнігу Ірыны Ляшкевіч "Сувой" у "Бібліятэцы" часопіса (яна пятая за сёлетні год) маладосцеўцы пацвердзілі, што, даючы ў свой час зялёнае святло маладой аўтарцы, не памыліліся. Кніга**



**І. Ляшкевіч — з тых выданняў, што кранаюць сваёй шчырасцю, непасрэднасцю, прывязанасцю да зямных рэалій. Родам І. Ляшкевіч з вёскі Мачуль Столінскага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучылася ў Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі. Атрымаўшы вышэйшую адукацыю, вярнулася ў родную вёску, у школу, у якой вучылася. І цяпер паэтка не толькі працуе ў ёй, а і кіруе ўзорным аматарскім аб'яднаннем народнай песні "Згадка". Як сведчыць у прадмове "І кожны промнік дарагі..." Казімір Камейша, "а калі возьме ў рукі баян, мелодыя яе зачаруе каго хочаш". А да ўсяго І. Ляшкевіч — "шчырая вясковая працаўніца. Доўгімі летнімі днямі яна пасялянску шчыруе ў сваёй цяпліцы". А вершы — для душы. Вершы — свайго роду выяўленне душы, якая не растраціла шчодрасці, умення радавацца хараству, што пануе наўкола, і здатнасці гэтае хараство ўвасабляць у радках. З першага ж верша зборніка гучыць песня замілавання зямлёй маленства, тчэцца "сувой" радкоў, якія кладуцца на паперу нязмушана. І. Ляшкевіч як быццам нічога новага і не адкрывае, але нельга абыякава ставіцца да таго, пра што яна піша. Асабліва, калі і ў тваёй душы засталося месца замілаванню вечным, зямным, непаўторным:**

*У сутонні вечаровым*
*Ціха выйду за сяло.*
*Ціша зменяць пеpазовы,*
*Калыхне імглу крыло.*
*Птушкі шарай цень распяты*
*Упадзе перада мной.*
*Строчыць конік, як закляты,*
*Строчыць ніткаю-тугой.*

**Заключная ж страфа твора — гэта і сваё, асабістае, што не дае спакою, нараджае трывожныя думкі, прымушае асэнсоўваць пражытае:**

*Адзінота ветрам сонным*
*Нема плечы мне кране.*
*Кубак шчасця (той няпоўны)*
*Нехта вып'е без мяне.*

**Лірычная гераіня І. Ляшкевіч вяртаецца ў гады маленства і юнацтва і, адштурхоўваючыся ад іх, прыглядаецца да сябе сённяшняй. У такіх выпадках знаходзіцца месца роспачы, трывозе, пэўнай незадаволенасці. Хораша напісаны верш "ххх Мне зноў згадаўся цёплы ранак...". Вяртанне ў вясну жыцця... Вяртанне ў тую пару, калі радуе ўсё і, канечне ж, цешыць абуджэнне прыроды пасля доўгага зімовага сну. І звычайны кураслеп падаецца самай прыгожай кветкай. А гады хутка праляцелі, і... — "Дзяўчо згубілася ў вясне... / А кураслепу шал агнёвы / Хвалюе і сягоння ў сне". К. Камейша слушна зазначае : "Відаць, самая праўдзівя і шчырая тая песня, якая ліецца з роднага гнязда. Для Ірыны Ляшкевіч — такое гняздо — родная вёска, з якой яна ніколі не парывала сувязі". Нельга не пагадзіцца з К. Камейшам і ў гэтым: "Светлага і праменнага ў вершах Ірыны Ляшкевіч шмат, але праз матывы светлага часам пральецца і хваля сумнага, нават са слязой балючага. Гэта чыста жаночая прарва душы, якая надта чулліва рэагуе на ўсё, што мае месца ў жыцці". Ды і прыведзеныя вышэй вершы — пацвярджэнне таму. Але яны не "вырываюцца", калі можна так сказаць, з сюжэтнай канвы кнігі. Яны арганічна ўваходзяць у яе, бо ўсё гэта — споведзь нашай маладой сучасніцы, якая, як і кожны чалавек, не толькі радуецца жыццю, а і ў нечым сумняваецца, у чымсьці расчароўваецца і штосьці (ад гэтага нікуды не падзенешся) страчвае. Думаецца, што чытач, які любіць паэзію, не праміне пазнаёміцца з "Сувоем" і застанецца гэтаксама, як і І. Ляшкевіч, удзячным праўленню калгаса "Беларуская ніва" Столінскага раёна і асабіста старшыні праўлення Мікалаю Ажогу, які паспрыяў, каб гэтая кніга пабачыла свет.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ЮБІЛЕІ

# "Калі йсці, дык сцяжынай дабра!"

### ДА 90-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Ларысы ГЕНІЮШ

Слова Божае кажа, што ад перапоўненасці сэрцаў прамаўляюць вусны. Але ад нас саміх залежыць, чым мы іх, нашы сэрцы, напаўняем: падазронасцю і зайздрасцю ці любоўю да бліжняга, смеласцю і адвагай ці засцярожлівай палахлівасцю, абмежаванасцю і эгаізмам ці гарачай адданасцю-служэннем Бацькаўшчыне. На якасць нашых сэрцаў паказвае плён нашых вуснаў, канкрэтныя справы і ўчынкі, а на якасць сэрца паэта — яго вершы, плён яго творчасці. Творы Ларысы Геніюш засталіся вечнымі і красамоўнымі сведкамі аднаго з найпрыгажэйшых сэрцаў Беларусі.

У вершах яе загаварыў цярністы жыццёвы шлях паэтэсы і яе знебарачанага народа. Лірычная гераіня досыць часта ідэнтычная вобразу самой аўтаркі. Часамі творы для паэткі былі адзіным выратаваннем ад шматлікіх нягод, сэнсам жыцця, адзіным і самым эфектыўным спосабам выяўлення сябе як асобы, сваіх грамадзянска-патрыятычных і проста чалавечых якасцей. "Душа мая трапяталася ў маіх вершах..." — гаворыць Л. Геніюш у знакамітай "Споведзі", успамінаючы асаблівасці свайго чэшскага перыяду жыцця і творчасці (1937—1948). І сапраўды, душа яе трапяталася гарачай любоўю да роднага краю, Бацькаўшчыны-Беларусі, шчымлівым сумам згадак адначасна яе няпростага мінулага і маркотлівага роздуму над днём сённяшнім.

***Там толькі хочацца, хочацца жыць,***
***дзе родныя, сумныя далі,***
***дзе поле узорнай раўнінай ляжыць,***
***калышацца жытняю хваляй.***

***Дзе Нёман дастойны шырока плыве,***
***дзе пушчы шумяць аб мінулым,***
***а ў замках, курганах легенда жыве***
***і песня дзядоў не заснула.***

*("Там толькі")*

Так (і гэта засведчана даследчыкамі), унутраны свет лірычнай гераіні ранняй творчасці Л. Геніюш (другой паловы 30-ых — пачатку 40-ых гадоў) выбудоўваецца з разнастайных праяў і адценняў яе любові да Радзімы і ўсяго звязанага з ёю. Тут і туга па матчынай апецы і пяшчоце ("Маці"), і душэўна прыгожая ахвярнасць закаханай дзяўчыны, яе гатоўнасць "пакіраваць плуг", каня накарміць і напаіць — пакуль мілы за краіну змагацца будзе ("Беларуска"). Тут і апяванне роднага Нёмана, які паўстае ў яе свядомасці як казачны рыцар багатай і слаўнай нацыянальнай бывальшчыны ("Нёмне"), і вядома ж, паэтызацыя каштоўнасцей роднай культуры і мовы, што "быццам музыкай, душы чаруе" ("Родная мова").

Здзіўляе і хораша ўражвае незвычайная чысціня і праўдзівасць выяўлення гэтай любові. Для паэтэсы, здаецца, няма такой тэмы ці матыву, якія б пры распрацоўцы не сталіся своеасаблівым гімнам роднай зямлі і стваральнай місіі яе адданых і клапатлівых насельнікаў, асабліва калі гаворка ідзе пра жыццё блізкіх людзей:

***Павяду цябе, мілы мой сыну,***
***у стары казачны край Крывічоў,***
***там, дзе шырака Нёман расхінуў***
***стужку сінюю серад палёў.***

*("Майму сыночку")*

Маці імкнецца перадаць сыну тое, што пасля Бога з'яўляецца найважнейшым для кожнага, — любоў да Радзімы, родных прастораў, а таксама руплівых працаўнікоў-беларусаў — людзей шчырых і ветлых, зычлівых і спагадлівых. Без яе, як вядома, чалавек — не чалавек...

Няма ў паэзіі Л. Геніюш згаданага перыяду нават намёку на эгаізм і самадастатковую задаволенасць, досыць распаўсюджаных у творах некаторых сучасных нашых лірыкаў. Расказваючы пра сябе, выяўляючы асновы свайго жыццёвага светапогляду і веры, лірычная гераіня своеасаблівя тыпізуе светапогляд народны, раскрывае залежы спрадвечнай народнай мудрасці і педагогікі, глыбокай філасофіі, імкненне народа да святла і праўды, добра і справядлівасці, гармоніі:

***Я не спяшаюся. Як сонейка, як дрэвы,***
***стаю ля ніў, а нада мной — сусвет.***
***Дзяды вучылі: добрыя пасевы,***
***дзе зернятка і ворыва як след.***

***Сялянка.***
***Веру ў розум, веру ў працу.***
***У чарназём. У цёплы дождж з гары.***
***У думках толькі можна разганаца.***
***А на палетках — пачакай пары.***

*("Я не спяшаюся")*

У гэтым вершы паэтэса змагла праз прызму сваёй асобы паказаць тыповыя рысы беларускага нацыянальнага характару: разважлівасць і памяркоўнасць, адданасць адвечным бацькоўскім традыцыям і нормам чалавечай маралі, сціпласць і працавітасць, любоў да жыццядайнага земляробчага занятку і інш.

Грамадзянскасць і патрыятызм ранняй паэзіі Л. Геніюш выяўляюцца не толькі ў агульнагуманістычным апяванні прыгажосці і велічы роднага краю, але і ў палымяных закліках, звернутых, галоўным чынам, да моладзі, весці ахвярную барацьбу за свабоду і незалежнасць, браць актыўны ўдзел у грамадска-культурным, адраджэнскім руху. Крыху пазней, у гады нямецка-фашысцкай экспансіі, тыповымі для духоўна-мастацкіх пошукаў паэтэсы стануцца радкі накшталт наступных:

***Не сумуйце, дзецюкі, па долі,***
***не хіліце гордай галавы,***
***бо не з жалю, толькі з ранаў, болю***
***воля толькі родзіцца з крыві.***

*("Не сумуйце")*

З самага пачатку творчасці Л. Геніюш усведамляла, што на алтар свабоды Беларусь паклала і яшчэ пакладзе нямала ахвяр. Паэтэса прадчувала, што на гэты алтар давядзецца легчы і некаторым яе родным і блізкім, а ёй наканавана прайсці праз надзвычай цяжкія пакуты і выпрабаванні. (Праўда, наўрад ці магла яна прадбачыць усю вусцішна-трагічную глыбіню і маштабнасць сваіх страт і пакут.) Але мастачка ніколі не здраджвала сваёй высокаснай мэце, гуманістычнай місіі, ніколі не сумнявалася ў тых духоўных каштоўнасцях, якімі жыла і якія адстойвала:

***Не скрываю няспутаных дум,***
***узіраюся смела і проста,***
***сваёй сцежкай наперад іду —***
***Юдаў твар для мяне не сяброўства.***

*("Маю душу ў спакоі пакінь...")*

Не знойдзеш у ранняй паэзіі Л. Геніюш і пачуцця скрушлівай безнадзейнасці, сумнатужлівага адчаю. Высокі грамадзянска-патрыятычны змест і гуманістычны пафас многіх яе вершаў адкрываюць не толькі трывалую надзею на лепшае, цвёрдую веру ў няпростую і тым жа часам шчаслівую будучыню Беларусі, жыццё яе народа, але і ўзмацняюць павагу і любоў да гістарычнага мінулага, усяго пройдзенага ёю пакрутастага шляху.

***Але ўсё ж я горды***
***нашых сэрцаў сілай —***
***мы падымем славу***
***з курганоў-магілаў.***

***Бо мы хочам волі***
***горача і цвёрда,***
***бо мы хочам славы***
***для Айчыны гордай!***

*("Адказ")*

Як вядома, сапраўднай з'яўляецца тая любоў, якая памірае на крыжы. Што датычыць Л. Геніюш, то ёй давялося пацвярджаць гэта ў сваім жыцці неаднойчы. Пры гожы і чысты вобраз роднай Беларусі, апеты ў першым зборніку паэтэсы "Ад родных ніў" (Прага, 1942), трэба было захаваць такім жа і ў лагерах Сібіры, і пасля вяртання ў Зэльву, жывучы там, не прыняўшы савецкага грамадзянства. Як вытрымаць, на што абаперціся пасля такога гора і пакут? На любоў да Радзімы. На зацятую веру ў дабро і людскасць. Іх агонь у паэзіі Л. Геніюш не спадае. Наадварот, пранесеныя цягам дзесяцігоддзяў праз жорсткія выпрабаванні любоў і вера набылі найвышэйшую першакаштоўнасную моц і сілу. "Што да прыезду да Вас, — адзначала яна ў лісце да Максіма Танка ад 9 мая 1967 года, — то спадзяюся, што аднойчы прыеду. Я веру Вам вельмі, Максім Танк. Не гледзячы на высокае становішча, я адчуваю, што Вы засталіся сябрам і сынам свайго народа. Таму я без страху і засцярогі пішу Вам і да Вас прыеду. Таксама спадзяюся, што і Вашыя блізкія сябры будуць шчырымі прыхільнікамі народа нашага, яго культуры і мовы..." І далей: "Што датычыцца пытання: ці жыць у Гродне? — дык трудна сказаць. Мне ўжо крыху зацяжка ў старой хаце, без усякіх выгодаў, з другога ж боку, я вельмі люблю "хадзіць па зямлі". Я люблю зелень, паветра, зімы і восені і вельмі люблю адчуваць побач, хоць крыху, свой народ. Смешна, я хіба ў Гродне хадзіла б на Скідальскі рынак штодня, каб бачыць там нашых людзей і чуць беларускую мову...".

Адна з характарыстычных і тыповых праяў

*(Працяг на стар. 12)*

# Памяць сустрэчы

10 ліпеня 1968 года. Разам з Міколам Пракаповічам упершыню трапляю ў Зэльву. У Ларысы Антонаўны і Івана Пятровіча — госці: сын Юрка з унукамі Махаськам і Алесем.

Я падарыў Ларысе Антонаўне сваю першую кніжачку "Кастры Купалля" і атрымаў яе зборнік "Невадам з Нёмана" з такімі дарчымі словамі:

***"О Радзіма, куточак славянскі.***
***Каб ад згубы Цябе ўсцерагчы,***
***сыны верна ля вогнішч купальскіх***
***сваіх продкаў цалуюць мячы!***

**Сяргею Панізніку ў памяць сустрэчы і ў доказ павагі ад аўтаркі".**

З Зэльвы я вярнуўся з запісамі на магнітафон "Рамантык" голасу Ларысы Антонаўны (Рыгор Барадулін пазней выкарыстаў запісы для фільма пра Л. А. Геніюш) і з некалькімі адзнятымі фотаздымкамі.

**Сяргей ПАНІЗНІК**





*На здымках: Іван Пятровіч з сынам Юркам і ўнукамі Міхаськам і Алесем; Ларыса Антонаўна Геніюш каля руінаў царквы за Зэльваю. 10 ліпеня 1968 года.*

*Фота аўтара.*

кіеўскага князя Ігара Святаслававіча, які асадзіў Друцк, але ўзяць так і не змог.

Аднак каля камянёў, каля вады ёй часцей за ўсё чамусьці рабілася страшна, і яна борздзенька ўзбягала наверх, хавалася за сцяну, бегла па замошчанай бярвенцамі вуліцы ў сваю невялікую, але сонечную святлічку, якую яны з Міхалінай вельмі любілі — чатыры акны, якія расчыняюцца, жоўценькія лавы каля сцен.

Князю не падабалася, што пляменніца выбягае за вароты, ён называў яе сваволкаю, аднак не вельмі ўшчуваў за гэта. Злаваўся, але не вельмі. Бо хто ж, злуючыся, падарыў бы ёй той лал — прыгожы заморскі камень з жывым святлом ўсярэдзіне, які дзядзька калісьці выменяў у палавецкага хана за тры белі — тры вавёрчыныя шкуры.

Як яна любіла гэты лал, як шанавала яго! Ёй здавалася, што ўсё друцкае сонца збіраецца ў ім, і ён тады, свеціцца, іскрыцца, іграе ўсімі сваімі брыжамі.

Князь Валодша многа ездзіў, шмат бачыў. Любіў чытаць — у яго былі тоўстыя кнігі, пісаныя рукою па скуры, ён іх чытаў, а потым расказваў, што там напісана. Вуляна і цяпер помніць, як дзядзька расказваў ім з Міхалінаю пра падземныя краіны, якія быццам бы знаходзяцца ў нас пад нагамі: у адных жывуць людзі рагатыя, у другіх — адна палавіна чалавечая, а іншая — сабачая, а ў некаторых — вочы і рот у грудзях. А то ёсць пеўні, на якіх людзі ездзяць. А то ёсць пясчанае мора, якое ніколі не стаіць на месцы: куды вецер дзьме, туды і пяшчаныя хвалі ідуць. Яшчэ ніводзін чалавек не пераадолеў гэтага мора — ні на караблі, ні сваімі нагамі....

Таму, калі дзядзька Валодша адкуль-небудзь прыязджаў, Вуляна бегла памагаць яму хутчэй развязваць шырокі пояс, якім ён любіў падпяразвацца — яна тады, развязаўшы канец, бралася за кутасы і бегала вакол князя, выслабаняючы яго ад плеценага пасака. Смяялася яна, смяялася і дзядзька.

Дзядзька вучыў іх усяму — правільна есці, маліцца, нават чытаць. Яна памятае і дагэтуль яго павучанні.

Няхай, казаў ён, ваш язык не будзе хутчэйшы за ваш розум. Беражыце душу, бо ўсё мінецца, а душа даражэй за ўсё.

Прычашчаючыся, цалуючы крыж, казаў ён, нельга чвякаць, плямкаць вуснамі, трэба асцерагацца брыдкіх пахаў з рота, — часночнага, хмельнага і іншага смуроду.

Нельга, казаў ён, паганіць, хуліць ежу, крывіцца, моршчыцца ядучы, гаварыць пра стравы, што яны кіслыя, гнілыя, прэсныя, салёныя, горкія, затхлыя, пераваранья, недаваранья — трэба ўсё есці хвалячы, без хулы.

А якія сталы накрываліся ў княжацкіх харомах падчас святаў ці тады, калі прыязджалі вельмі пашаноўныя госці. Чаго на іх толькі не было!

Запечаныя лебедзі ды жураўлі... Заечыя пупкі... Бараніна салёная... Жаўранкі гатаваныя... Студзень з рабчыкаў... Заліўная зайчаціна... Шчупакі на пары... Беларыбіца... Запечаныя акуні... Юшка з пескароў ды ляшчоў... Языкі ласіныя... Мянтузы гнутыя... Піражкі ў арэхавым масле... Медзвяжаціна... Стронга... Двайная капуста... Сачні... Пірагі з макам... Караваі яечныя... Смолачы... Зубраняціна... Гальцы... Шышкі — салодкія булачкі...

Нешта халоднае і ліпкае раптам пабегла па яе вуснах — Вуляна злякнулася і машынальна, даланёю змахнула з іх тое, што бегла.

— Не бойся, мамка. Гэта — станога. Еш... — Любімка зноў пачала лавіць мнаганожку, якая няспрытна спрабавала ўратавацца ад яе пальцаў.

— Не лаві яе, сонейка маё, — ласкава папрасіла маці, — Няхай бяжыць.

— Мамка, я хачу хохліка, — зусім ціха папрасіла Любімка.

Вуляну аж скаланула — гэтая просьба была як быццам працягам яе ўспамінаў. Якраз вось гэтак за багатым дзядзькавым сталом яна часам сама, капрызна пацціўшы вусны, прасіла: "А я хачу хохліка", і князевы слугі на дарагім падносе з доброю ўсмешкаю неслі ёй адной таго хохліка.

З цяжкім сэрцам, адыходзячы з дому, здымала яна са сцяны апошнюю вязанку сушаных карасікаў. Але ж яны, гэтыя карасікі, якраз і дапамаглі ім абедзвюм выжыць у цяжкой дарозе — праўда, яна сама іх амаль не ела, усё берагла і аддавала дачушцы.

Цяпер у торбачцы застаўся толькі адзін, апошні хохлік.

"Няхай з'есць, — ласкава падумала Вуляна. — Двор жа блізка ўжо — вунь масток праз Вабіч, які і адсюль відаць, а тады вунь той пералесак, Добрае Поле ды і будзем удома. Не можа ж быць, каб Небр не знайшоў якой-небудзь ежы".

Яна развязала торбачку, дастала карасіка — цяпер ужо, каб не было лала, яна б была зусім парожняя — і аддала дачцэ. Але тая не выхапіла яго з матчыных рук, а спакойна ўзяла пальчыкамі, разламала на дзве часткі і большую аддала, вярнула маці:

— Еш і ты...

— Я не хачу, — адмовілася Вуляна. Яна не маніла — ёй і праўда чамусьці зусім не хацелася есці.

Вочы яе самі сабою затуманіліся, і яна адвярнулася — не хацела, каб дачка ўбачыла, што ў іх стаяць слёзы.

Але ж Любімка ўбачыла ўсё, спыталася:

— А чаго ты тады плачаш? Можа, ты захварэла? Ты ж во толькі што трызніла. Пра нешта ўсё гаварыла, гаварыла, гаварыла. Але я не зразумела нічога.

Вуляна сцяміла: пра тое, што ўспаміналася, яна ўсё ж гаварыла ўслых.

І ўзрадавалася, што дачка нічога не зразумела — то ж трэба галоднаму дзіцяці расказваць пра такія прысмакі...

Яна адплюшчыла вочы, ужо не саромеючыся выцерла слёзы і з трывогаю, як толькі што ўбачыла, угледзелася ў даччын тварык: якая ж Любімка бледненькая! "Але ж нічога, — супакойвала яна сама сябе, — ластаўка ж не худзенькая, бачыш, якая пухленькая, поўненькая — як налітая". І тут жа спахапілася, устрывожылася яшчэ болей: "Што ж гэта я гавару. Яе ж паўната нездаровая — ад голаду. Ад голаду ж людзі таксама пухнуць".

Сэрца моцна застукала, але на гэты раз ужо не ў пальцы, а ў галаву — быццам яно нейкім чынам аказалася не ў грудзёх, а ў галаве.

Вуляна не падала выгляду, што спалохалася, стараючыся гаварыць спакойна, казала да дачкі:

— Пацярпі, мая ластавіца, хутка будзем удома. Там татка нас чакае, ён спажывы нам напасвіў. Ты ж чула, як мы адыходзілі, татка казаў, што чорнага зайца высачыў, сіло браўся майстраваць. Я думаю, той заяц ужо трапіў у яго сіло...

Любімка ўсміхнулася — неяк па-даросламу, як і маці: аднымі куточкамі вуснаў.

— Уставай, мамка, — сказала яна. — Пойдзем хутчэй дадому.

Вуляна ж не магла падняцца — цела яе, адчувала, як прыклеілася да зямлі.

— Давай, дачушка, яшчэ паляжым троху. Двор жа наш ужо блізка, мы з табою мігам дойдзем. Борздзенька дабяжым.

Любімка, згаджаючыся з ёй, махнула галоўкаю і, закусіўшы вусны, няёмячыся пацягнулася ручкаю да другой палавінкі карасіка, якая ўсё яшчэ ляжала на парожняй, скручанай вакол лала торбачцы.

— Еш, еш, ластавіца мая, — пахваліла яе Вуляна і дадала: — Вось даясі хохліка і пойдзем...

Князя Васільку яны з Міхалінаю ўпершыню ўбачылі ў дзядзькавых харомах ранняю восенню. Высокі, статны, з акуратнаю попельнаю барадою. У зялёных ботах з тонкай скуры, у лёгкім кажусе грэчаскага вырабу, які быў абшыты залатымі карункамі.

Шчыра кажучы, ён ім абедзвюм спадабаўся.

Князь Васілька заехаў у Друцк, вяртаючыся са сваёй паездкі ў Залатую Арду, да ўнука Чынгісхана — Батыя.

Яшчэ ўлетку Васілька падрыхтаваў лодкі, спусціў іх на ваду Дняпра каля Копысі і паплыў да Кіева. Месяцы са тры яго не было відаць у княстве, нічога не было чуваць таксама і пра яго гасцяванне ў Ардзе.

І вось ён вярнуўся. З гэтага выпадку князь Валодша зрабіў у Друцку вялікі пір, на якім было шмат людзей. Была дружына, былі гудцы і глумцы. Былі, вядома, і яны з Міхалінаю. Слухалі, пра што гаварылася, вельмі ўважліва, баючыся што-небудзь прапусціць — князь жа быў у страшнага Батыя!

— А чаго ты сам туды паехаў? — дапытваўся ў яго дзядзька.

Васілька на гэтае пытанне адказаў сваім:

— А ці чуў ты, што ў Ляхах татары нарэзалі пяць мяшкоў вушэй? І адрэзалі ж толькі па аднаму вуху — другое пакідалі.

— Ён збаяўся за свае вушы, — зарагатаў глумец Мак'ян, але яго ніхто не падтрымаў, і ён хуценька закрыў свой рот.

Князь Валодша, які адгаворваў Васільку ад гэтай паездкі, нецярпліва спытаўся:

— Ну дык расказвай, як яны цябе там прымалі.

Васілька гаварыў не спяшаючыся, павольна, нібыта ўспамінаючы вось зараз усё тое, што з ім было ў Ардзе. Яго ўважна слухалі — маўчалі нават глумцы. Толькі нямы гудзец Юрша выдаў нечакана ў жалейку выпадковы гук і сам спалохаўся гэтага.

— Паклікалі мяне да Бату, у шацёр да яго правялі. "Васіль, а чаму ты да мяне раней не прыходзіў?" — спытаўся ён. Я не адказаў нічога. Ды ён і не чакаў адказу, сам гаварыў далей: "Але добра, што цяпер прыйшоў. Ці п'еш ты чорнае малако — наша піццё, наш кумуз?" — "Дагэтуль не піў, — кажу, — а цяпер, калі ты падносіш, вып'ю". Выпіў я тое кабылячае доіва, зморшчыўся. Кажу: "Пайду пакланюся царыцы". — "Ідзі", — кажа Бату. Прыйшоў я да ханшы, ёй пакланіўся. А Бату ўжо туды мне коўш віна прыслаў: "Не прывыклі вы піць кумуз, то пі віно".

— Ну і што ж ён табе паабяцаў? — спытаўся Валодша.

— А нічога ён мне не абяцаў. Даручаў зямлю, маю зямлю, якая ў мяне і была. І ўсё.

— Дык а чаго ты тады ездзіў, прыніжаў сябе, кланяўся? Кабылячае доіва піў? Цераз д'ябальскія агні перад ханскім шатром праходзіў? Ты ж вялікі князь! А ты едзеш у Арду толькі таму, каб сказаць Батыю, што будзеш яму спраўна плаціць даніну.

— Не, князь Валодша, я ездзіў туды, каб вярнуцца, — неяк загадкава адказаў Васілька і дадаў: — А многія князі не вярнуліся: не пакланіўся агню ля шатра — зарэзалі нажом, не выпіў кумузу — атруцілі. А я вярнуўся.

Замест таго, каб адразу ж, пабачыўшыся з Валодшам, зноў ехаць у сваё княства, Васілька затрымаўся ў Друцку надоўга — яму спадабаліся Валодшавы пляменніцы, і адну з іх ён папрасіў у жонкі. Праўда, выбраў не яе, Вуляну, а малодшую — Міхаліну.

Дзядзьку гэта не спадабалася, ён абурыўся:

— Адзін камень шмат гаршкоў разбівае. Ты, Васілька, ганьбіш маю Вуляну. Я ж не магу аддаць табе малодшую, пакуль старэйшая не ў ажэнстве. Бяры старэйшую, Вуляну.

Аднак Васілька ці то жартам, ці то ўсур'ёз адказаў на гэта:

— Я б узяў, Валодша, і абедзвюх — яны ж абедзве і прыгожыя, і спрытныя, і добрыя. Але ж я ўжо не малады чалавек — баюся, не спраўлюся...

— А я не аддам замуж Міхаліну, пакуль не ажэніцца Вуляна.

Аднак абедзвюм дзяўчатам пара ўжо было думаць пра замужжа, і таму дзядзька пачаў шукаць для старэйшай пляменніцы жаніха.

Князь Глеб Каханаўскі Вуляне спадабаўся яшчэ больш, чым Васілька. Дзядзька вельмі хваліў яго — ён і харобры, ён і сумленны, ён і добры, ён і ласкавы, ён і руплівы.

Глеба выхоўвала адна маці, і яна перадала сыну шмат чаго са свайго вельмі жаноцкага характару.

На княства Глеб сеў малалетнім — у Каханава яго прывезла маці са сваім цівуном. Калі маці ад'язджала, ён ніяк не мог адважыцца выпусціць са сваіх рук повад матчынага каня — так баяўся астацца на княжанні адзін. Пасля, праўда, перажыў свой страх, абвыкся і ўжо сам пасміхаўся са сваіх маладых дзівацтваў.

Неўзабаве, яшчэ той жа зімою, Вуляна стала жонкаю князя Глеба і пераехала ў Каханава, а Міхаліну ўжо вясною звёз у свой церам Васілька.

Перад самай жаньбою князь Глеб толькі што вярнуўся з паходу на яцвягаў — дзядзька Кандрат, на зямлі якога нападала гэтая племя, паклікаў яго: "Пойдзем на яцвягаў", і ён згадзіўся.

З гэтага паходу Глеб нічога, здаецца, не меў, апрача, можа, палоннага яцвяга, якога палюбіў як брата свайго і прывёў яго ў Каханава. Яцвяг быў маўклівы, спакойны, вынослівы, працалюбівы, і князь неўзабаве зрабіў яго сваім цівуном. Здаецца, мудрэйшага і справядлівейшага цівуна не было на свеце: Небрам былі задаволены ўсе — і сам князь, і яго людзі.

Яцвяг заўсёды пра нешта зацята думаў і маўчаў — часам нават здавалася, што ён нямы. Маўклівасць і зацятасць Небра яе, Вуляну, спачатку раздражняла, а потым як нешта здарылася, як нехта начараваў ёй, — яна закахалася ў гэтую маўклівасць і гэтую зацятасць яцвяга. І ўжо, сама таго не жадаючы, не магла ні дня правесці, каб хоць здалёку не ўбачыць яго.

Яна, хоць іхняе ажэнства з Глебам і было такое паспешлівае, была неабыкавая да князя, здаецца, нават любіла яго.

Але ж Небр... Які таямнічы, які загадкавы яго твар!

Калі князь ад'язджаў куды, быў у паходзе, Вуляна сумавала без яго, хацела, каб ён хутчэй вярнуўся.

Але ж яцвяг... Як ёй хацелася разгадаць ягоную загадку: чаго ён усё маўчыць?

Пры ім з ёю нешта рабілася: ногі станавіліся як не свае, ва ўсім целе разлівалася млявая, прыемная цеплыня, шчокі чырванелі, а сэрца пачынала так гучна біцца, што яна спяшалася адысціся як мага далей ад мужа — баялася, што ён пачуе, як яно стукае.

Словам, здарылася тое, што і павінна было здарыцца.

Сумленны яцвяг, адно сказаўшы Вуляне: "Не патрывожыўшы пчол, мёду не есці", пайшоў да князя, расказаў яму пра ўсё і настойліва запатрабаваў:

— Я хачу тваю жонку, князь.

Гэтая неразумная, як здавалася ўсім, прыстойнасць цівуна прывяла князя ў лютасць, і ён выхапіў быў з бабровых логнаў меч і хацеў пасячы ўжо і княгіню, і цівуна, але яго стрымалі дружыннікі. Яны не выпускалі князя з рук, пакуль Вуляна і Небр не сышлі з ягоных вачэй — яшчэ перад тым, як збочыць у лес, княгіня азірнулася і ўбачыла, што Глеб усё яшчэ торгаецца ў руках дружыннікаў, спрабуючы вызваліцца ад іх.

Узяўшыся за рукі, яны з Небрам ішлі павольна, не спяшаючыся, бо не ведалі, куды ісці і што ім рабіць далей...

— Мамка, я даела хохліка...

Дачка перапыніла яе ўспаміны.

— Ну і добра. Тады і пойдзем, мая ты ластавіца.

Уставаць Вуляне не хацелася — стома так і не пакінула яе цела. Але яна разумела, што такая зняможанасць не ад стомы, а ад голаду, і таму, колькі ні ляжы, колькі ні адпачывай, сілы не прыбавіцца.

Дачушка, узрадаваная, што яны, нарэшце, пойдуць, а неўзабаве будуць і дома, усхапілася дужа борздзенька, ды і яна сама, каб не паказваць Любімцы сваёй слабасці, паднялася таксама хутка — ды так хутка, што аж павяло ўбок, і Вуляна, нібы аступіўшыся, ледзь не павалілася зноў на траву. Але, ухапіўшыся за Любімчыну ручку, затрымалася, устояла і вінавата, нібы апраўдваючыся ў нечым перад дачкою, сказала:

— Во якая ты моцная. Гэтак добра мяне падтрымала.

Так, узяўшыся за рукі, нібы перадаючы адна адной сваю сілу, маці і дачка неўзабаве падышлі да старога моста цераз раку Вабіч.

Гэты мост быў іхні. Яго пабудаваў Небр якраз у той год, калі нарадзілася Любімка. Дарога славілася сваёй люднасцю, па ёй кожны дзень ехалі вазы, людзі плацілі за пераезд праз раку, і яны з Небрам жылі з гэтага.

Але тое ўжо было пасля.

А напачатку, тады, калі яны пакінулі Глеба ў руках дружыннікаў, — даганяць іх князь, крыху астыўшы, ці то не схацеў, ці то збаяўся: прадбачліва яцвяг на нялёгкую размову з князем на ўсялякі выпадак узяў з сабою меч — усе сцежкі і дарогі былі іхнія і не іхнія: па любой з іх яны маглі ісці, але не ведалі, куды іх могуць прывесці нават знаёмыя пуцявіны.

Дзядзькі Валодшы ўжо не было ў жывых. Абклалі нядобразычліўцы горад, ён зачыніўся ў ім, але ваяваць не стаў, а выйшаў да іх з мірам. І ўсё было добра, і пір яны між сабою ўчынілі, і весяліліся і радаваліся. А назаўтра дзядзька скорападуча памёр — відаць, атруцілі нелюдзі.

Таму ісці ў Друцк, які зусім апусцеў пасля смерці дзядзькі Валодшы, Вуляне не было ніякага сэнсу.

Яны пайшлі ў двор Зубрэвічы, дзе князяваў Сямён Зубрэвіцкі — братаніч дзядзькі Валодшы, сын яго брата, а Вулянін стрыечны брат.

Аднак Сямён не адважыўся прыняць іх, збаяўся гневу князя Глеба — яны ж цалавалі між сабою крыж.

Таму Небр, не атрымаўшы ніякага прытулку і ніякай работы ў князевым маёнтку, змушаны быў разам з люзнымі людзьмі, з сялянамі, якія разарыліся, пайсці ў наёмнікі. Ён стаў лаўніком — лавіў на дарогах рабаўнікоў, якія нападалі на пахаджан і паязджан.

Небр на Туміцкай пустэчы сваімі рукамі пабудаваў сабе хату — цесля, будляр, бондар ён быў адменны. І гаспадар такі ж — калі ў іншых людзей не было дымароў — дым з хаты выходзіў праз дзверы, — ён зрабіў над агнішчам адтуліну ў страсе і паставіў на яе комін: выдзеўбаў у вялікай і тоўстай калодзе дзірку, абмазаў яе, каб не загарэлася, глінай і ўзнёс на страху.

(Працяг на стар. 14—15)

музыкам адкрываць свет: “Мы не павінны страціць гэтую унікальную магчымасць асабістага ўдзелу ў сучасным музычным жыцці. Гэта вялікі шанц для маладых беларускіх музыкантаў, якія варацца ва ўласным соку і падобныя адно да аднаго. Наогул, да зорак — і заходніх, і ўсходніх — можна адносіцца па-рознаму. Але яны — зоркі, і ў іх ёсць чаму навучыцца. Чым больш зорак будзе на “СБ”, тым лепш”.

Некалькі слоў хочацца сказаць пра дзень расійскай культуры, які падарыў дзівосныя гадзіны асалоды для віцебскіх меламанаў і прыхільнікаў класічнай харэаграфіі.

Зоркі расійскага балета прыехалі на “СБ” другі раз. У 1998 г. Андрыс Ліепа ўжо знаёміў Віцебск з падобнай праграмай. Тады яшчэ крытыка пыталася: ці прыжывецца на “базары” балет? Станоўчы адказ даў год 2000. “Цвіком” сёлетняга гала-канцэрта сталася шыкоўнае “Балеро” М. Равэля ў выкананні трупы “Рускага імперскага балета” пад кіраўніцтвам Гедымінаса Таранды. Як адзначыў наш госць, яго балет многа гастралюе па свеце, але ж у Віцебску — выдатная сцэна, а танцаваць на свежым паветры — адно задавальненне.

Канцэртная праграма дваццацітрохгадовага студэнта Расійскай акадэміі музыкі Мікалая Баскава “Прывячэнне” разбурыла ўсе стэрэатыпы абывацеля наконт опернага мастацтва. У праграме побач з творамі Г. Гендэля, Ф. Шуберта, Т. Альбіноні гучалі папулярныя песні І. Саруханава, Д. Русаса, спяваў тэнар без фанаграмы, яму акампанаваў Расійскі прэзідэнцкі аркестр. Сам Мікалай сказаў пра свой канцэрт: праспяваць адзін такі “сольнік” намнога больш складана, чым выканаць партыю ў оперы.

Гаворачь, канцэрт Баскава нельга было абмінуць хаця б таму, што праз 10-15 гадоў гэты артыст будзе прыгаданы ва ўсіх энцыклапедыях і музычных даведніках свету. Але ж сёй-той з ягоных сталых калег раіць: “Коля, беражы голас...”

Наступны X фестываль мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску” — юбілейны. Ужо зараз арганізатары плануюць запрасіць да ўдзелу 50 краін свету. А ў адзін з вечароў пляцоўку амфітэатра аддаць лаўрэатам усіх папярэдніх конкурсаў маладых выканаўцаў эстраднай песні на “СБ”. Віцебск жа шчыра, як заўсёды, будзе сустракаць гасцей. Нават прапануе ім яшчэ адзін новы чатырохзоркавы гатэль...

**Святлана ГУК**

*г. Віцебск*

**Дзівосна працаздольны быў: над аркестроўкай свайго твора мог сядзець суткамі.**

Памятаюць яго дасціпным, вясёлым, трапным у слове. Знанага опернага спевака Віктара Чарнабаева, з якім сябраваў, Я. Цікоцкі называў “Пераможца Кулямётавіч”. А ў музыцы... “Ён любіў не сябе ў музыцы, а музыку для людзей”, — казаў калісьці кампазітар Мікалай Аладаў, таксама сябра Яўгена Карлавіча. Дзівосны прыклад: яны абодва адначасова стварылі песню на адзін і той жа верш Анатоля Астрэйкі, але Цікоцкі як член дзяржаўнай закупачнай камісіі выбраў песню Аладава.

А якія вобразныя ўспаміны пра Я. Цікоцкага пакінуў вядомы скульптар Заір Азгур! Вось што ён пісаў пра той ваенны час, калі ім давялося жыць у адным гасцінічным пакоі: “Днём гэты нястомны чалавек хадзіў і напяваў сабе пад нос не толькі прыкметныя для чужога слыху мелодыі. Адкідваў уверх кранутыя сівізной валасы, схіляўся над нотнай паперай і запісваў хуткімі, як ластаўкі, знакамі тое, што “знайшоў” у хаосе гукаў, і зноў пачынаў хадзіць з кута ў кут. Зрэдку сядаў за музычны інструмент і асцярожнымі пальцамі нібы “здымаў” з клавішаў якую-небудзь музычную фразу. Я слухаў музыку то поўную трагічных пачуццяў, то мілагучную і пераможную”.

Сама ж я са школьных гадоў памятаю, якім цудоўным выкладчыкам музычнай літаратуры быў Яўген Карлавіч, з якой любоўю, цеплынёй ставіўся ён да дзяцей. Усё, што мы вывучалі, ён граў на фартэпіяна на памяць і з такім захапленнем, што і сёння нібыта бачу яго за раялем, чую, як гучыць у такт музыцы яго хрыплаваты голас....

Старэйшы наш кампазітар Анатоль Багатыроў многае помніць пра свайго калегу і сябра:

**— Ён жа больш за дзесяць гадоў быў мастацкім кіраўніком Белдзяржфілармоніі. Трынаццаць гадоў, пачынаючы з 1950-га, кіраваў Саюзам кампазітараў Беларусі. Дарэчы, пры ім саюз займаўся музыкай, а не размовамі. А колькі Яўген Карлавіч пісаў музыказнаўчых артыкулаў, колькі пісаў пра тагачасных маладых беларускіх кампазітараў — Смольскага, Семяняку, Глебава, Лучанка ды іншых! Яго публікацыі з’яўляліся ў штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва”. Добра было б выдаць зборнік тых артыкулаў Цікоцкага...**

Сваёй абаяльнасцю, непрыкметна, прыкладам уласнай дабрыні гэты інтэлігентны няўрымслівы чалавек выхоўваў і сваіх дзяцей, і вучняў.

Дабрыня, шчырасць даюць цудоўны вынік і ў наступных пакаленнях.

**Вера КРОЗ**

ТВОРЦА

# Актрыса па прызванні



Распавед пра Рыму Маленчанку пачну з яе ўласных слоў: “Работа акцёра — работа па прызванні”. І яшчэ: “...я думаю, не выклікае сумнення, што акцёру вельмі важна знайсці свой тэатр...” (“ЛіМ”, 1972, 3 сак.). Р. Маленчанка знайшла работу па прызванні і свой тэатр — каля 40 год яна была (а дэфакта і ёсць) актрысай Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. 11 снежня 1955 года была залічана ў трупу тэатра з акладам 500 руб. у месяц.

Р. Маленчанка прыйшла ў тэатр у вельмі адказны перыяд, калі ішла падрыхтоўка да яго адкрыцця (адбылося ў красавіку 1956 года). У першых спектаклях яна ўдзельнічала ў масавых сцэнах. А ўжо 13 кастрычніка 1956 года ўпершыню выйшла на прафесійнай сцэне ў галоўнай ролі. Да таго быў Студэнцкі тэатр БДУ (з 1952 года яна вучылася на філфаку універсітэта), які ўзначальваў патрабавальны рэжысёр — акцёр Рускага тэатра К. Кулакоў. І вось цяпер — Агнія: маладая гераіня ў спектаклі “Не ўсё кату масленіца” А. Астроўскага. Агнія ў выкананні Рымы Маленчанкі была надзвычай шчырая і непасрэдная: пяшчотная і свавольная, з хітрынкай у вачах, засмучоная і жартаўлівая, паслухмяная і непакорлівая, здольная адстойваць сваё пачуццё. У рэцэнзіі на спектакль (“ЛіМ”, 1956, 17 лістап.) тэатральны крытык Т. Бушко пісала: “Маленчанка ўвесь час знаходзіцца ў вобразе: яна вельмі добра “слухае”, жыве на сцэне нават у момант поўнага знешняга бяздзеяння”. Гэта ўжо вышэйшая ацэнка работы акцёра. А тэатразнаўца А. Сабалеўскі ў кнізе “Сучаснасць і гісторыя” (1985) потым напіша: “Р. Маленчанка не толькі звярнула на сябе ўвагу, а і ўзрушыла, зачаравала гледачоў”. Шчырасць і непасрэднасць Р. Маленчанка захавала на ўсё сваё творчае жыццё.

Пасля таго паспяховага дэбюту Р. Маленчанка адразу стала адной з вядучых актрыс тэатра. Іграла яна многа, была занятая амаль у кожным спектаклі. А калі не было ў спектаклі для яе ролі, удзельнічала ў масавых сцэнах. І нават у іх ёй удавалася быць прыкметнай, а часам і стварыць адметны вобраз. Так з’явілася “жывая” дзяўчынка Параська, якой няма сярод дзейных асоб у праграме спектакля, а між тым яе нават адзначалі ў рэцэнзіях. Так было і з Паварчуком у “Цудоўнай дудцы” В. Вольскага.

Р. Маленчанка іграла маладых гераінь, дзяўчат, казачных персанажаў, выступала як травесці, а пазней з’явіліся ўзроставыя ролі. Згадаем яе жыццярадасную, парывістую, задзірлівую закаханую Жэньку (“Над хвалямі Серабранкі” І. Козела); шчаслівую Кацю, зачараваную прыгожымі словамі аб каханні, і яе горкае абуджэнне (“Учора ў Касаткіне” А. Зака і І. Кузняцова). У памяці ажываюць яе добрая, абаяльная, сціплая Сунічка (“Прыгоды Чыпаліна” паводле Д. Радары, за выкананне гэтай ролі Р. Маленчанка стала лаўрэатам Усесаюзнага фестывалю тэатраў юнага гледача ў Маскве ў 1958 годзе); далікатная, мяккая, тактоўная, ласкавая Вера Вячаславаўна (“Няроўны бой” В. Розава).

Яе непаўторны, незабыўны Юра Узюмаў у “Пузырках” А. Хмеліка стаў каронная роляй у амплуа травесці! Роля гэтага юнага кар’ерыста, юнага прыстасаванца была адпрацавана да найдрабнейшых дэталяў: кожны рух, жэст, позірк — усё было прадумана. Чаго варта было адно яго паяўленне па-даросламу дзелавітай хадой з вялікім партфелем пад пахай на школьным двары. А яго камандзірскі тон... Пры гэтым Р. Маленчанцы нідзе не здраджвала пачуццё меры. Яе Юра заставаўся жывым, пазнавальным, не ператвараўся ў шарж. За выкананне гэтай ролі — “стварэнне высокамастацкага вобраза ў тэатрах рэспублікі за 1966 год” — Р. Маленчанка была ўзнагароджана дыпломам БТА.

У 1968 годзе ў тэатры паставілі “Ізноў сустрэча з маладосцю...” А. Арбузава. У п’есе на тры дзейныя асобы галоўная сольная партыя належыць Машы. Маша Рымы Маленчанкі была вельмі лірычная, узвышаная, жартаўліва-далікатная. Актрыса тонка раскрывала пачуцці Машы, дакладна выяўляла падтэкст арбузаўскай гераіні, была надзвычай пераканаўчая. Тагачасны дырэктар тэатра А. Вольскі ўспамінае, што на адным са спектакляў прысутнічаў міністр культуры Беларусі М. Мінковіч. Ён быў уражаны і здзіўлены, што такая актрыса працуе ў Тэатры юнага гледача. У гэтым жа годзе Р. Маленчанцы было прысвоена ганаровае званне заслужанай артысткі Беларусі.

Неяк незаўважна Р. Маленчанка перайшла на так званыя ўзроставыя ролі. Мабыць, атрымалася гэта так натуральна, бо падобныя ролі ёй даводзілася іграць яшчэ ў юнацтве (студэнты БДУ з захапленнем гаварылі пра Настассю Яфрэмаўну ў спектаклі “У добры час!” В. Розава). І ва ўзроставых ролях Р. Маленчанка захапляла гледачоў. Сваім уважлівым позіркам маці яе Ульяна Паўлаўна (“Экзамен на восень” І. Шамякіна) усё прыкмячала, усё адчувала, усё разумела, якую высакародную мацярынскую любоў, якое багатае ўнутранае жыццё, якую глыбіню перажыванняў выяўляла Р. Маленчанка ў ролі. Нездарма тэатральны крытык Б. Бур’ян, захоплены яе ігрой, усклікнуў: “Якую багатую ролю на псіхалагічныя нюансы напісаў для Р. Маленчанкі драматург!.. Двойчы бачыў я Р. Маленчанку ў гэтай ролі і двойчы быў узрушаны яе заглыбленасцю ў душу гераіні. Складаецца такое ўражанне, нібы актрыса даўно чакала сустрэчы з такім драматургічным матэрыялам, а І. Шамякін, пераносячы штосьці ад жыццёвага прататыпу вобраза ў тэкст п’есы, меў на ўвазе яе, Рыму Маленчанку, з тэатра юнага гледача”. (“ЛіМ”, 1974, 8 мая). Старая правільная сапраўдная бальшавічка і разам з тым умудроная жыццём, чалавек трагічнага лёсу — такая была яе Юлія Паўлаўна ў спектаклі “Марутка” С. Алексіевіч. А вось маці Андрэя Людміла Васільеўна — добрая, чулая і ўстрывожаная за сына-падлетка, які ўпершыню сутыкаецца з каханнем (“Пойдзем у кіно?” А. Алексіна).

Ва ўсіх гэтых ролях Р. Маленчанка была нейкая вельмі зямная, але не прыземленая, нават некалькі ўзвышаная, светлая, натуральная, ёй удавалася ўзняцца над паўсядзённасцю, не здрабніць, а, наадварот, узбуйніць характар.

І ў процілегласць ім Старая ў “Пушкінскіх казках” (“Казка пра рыбака і рыбку”), дзе Р. Маленчанка з лёгкасцю дэманстравала разнастайныя праявы характару і паводзін ад лагоднай, беднай Старой да сварлівай, ваяўнічай, якая з нейкай асалодай цешыцца сваёй уладай над людзьмі. На добрым прафесійным узроўні была сыграна Аркадзіна ў спектаклі “Чайка” А. Чэхава.

Пры вялікай колькасці сыграных роляў Р. Маленчанцы ўдавалася не паўтарацца, яе гераіні заўсёды былі непадобныя. Але было і тое, што іх усіх радніла, збліжала. Гэта выразныя вочы актрысы. Загадчык трупы К. Малюціна ўспамінае: “Бывае на гастролях па калгасах. Гарачыня, пыл, стомленасць... І Рыма Маленчанка, здаецца, зусім звычайная. І раптам, перад выхадам на сцэну, — “усяляе” ў свае блакітныя вочы натхненне. І гэтае натхненне ў вачах яна “несла” ва ўсіх спектаклях”.

А як Р. Маленчанка чытала (і чытае). Яна — сапраўдны майстар мастацкага слова. “Па чытанні вершаў, — як зазначае К. Малюціна, — ёй няма роўнай сярод акцёраў тэатра” (а ці толькі Тэатра юнага гледача?), “Заўсёды чытае з натхненнем, заўсёды робіць гэта надзвычай асэнсавана”. Дарэчы, у яе была самая высокая разавая канцэртная стаўка артысткі размоўнага жанру вышэйшай катэгорыі. Нездарма ж Р. Маленчанка на працягу многіх гадоў выкладала сцэнічную мову ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім, а пасля і зараз — ва Універсітэце культуры (з 1999 на пасадзе прафесара). Напэўна, ніводзін вечарсустрэча ў Доме літаратара з беларускімі паэтамі не абыходзілася без таго, каб Р. Маленчанка не чытала іх вершы. І з якім разуменнем думкі аўтара, з якім глыбокім пранікненнем у сутнасць твора. Безумоўна, дасягнуць гэтага дапамагала Р. Маленчанцы яе філалагічная адукацыя. А ў тэатры — з наладжанага неяк акцёрамі чытання вершаў А. Блока на малой сцэне яго ў 1982 годзе нарадзіўся спектакль — “Ёсць многае ў сэрцы маім пра Блока...”, аўтарам літаратурна-драматычнай кампазіцыі і рэжысёрам была Р. Маленчанка. У 1986 годзе Р. Маленчанка і акцёр тэатра М. Лявончык, зноў на малой сцэне, паказалі спектакль “Паэт”: пранікнёна гучалі ў выкананні актрысы ўспаміны М. Цвятаевай “Мой Пушкін”, вершы А. Пушкіна, урыўкі з яго “Яўгенія Анегіна”. У 1999 годзе, пасля працяглага перапынку, Р. Маленчанка аднавіла сваю кампазіцыю (з удзелам актрысы тэатра Р. Астрадзінавай), яе паказвалі ў навучальных установах, арганізацыях, дзе любяць і цэняць паэзію і актрысу.

Сапраўды, Р. Маленчанка — актрыса па прызванні, яна заўсёды настроеная на творчасць. З асаблівай прагай творчасці, з новымі задумамі Р. Маленчанка вярталася з Амерыкі, дзе яна нейкі час жыла ў пачатку 90-х гадоў. Там яна пазнаёмілася з творамі аўтараў 19 стагоддзя — прозай Уільяма Люса і вершамі Эмілі Дзкінсан, а па вяртанні дамоў зрабіла кампазіцыю, дзе амерыканская філасофская паэзія і лірыка спалучаліся з праніклівай прозай, напісанай беларускай настаўніцай Алай Саснавец пад уражаннем чарнобыльскай трагедыі. Атрымаўся цікавы монаспектакль “Каля адвечнага парога” (1988): два маналогі пра час, пра сябе такіх розных жанчын — амерыканскай паэткі Эмілі і беларускай вясковай кабеты Кацярыны.

Р. Маленчанку любяць і шануюць не толькі беларускія паэты. У снежні 1985 года дырэктар тэатра І. Андрэеў атрымаў ліст ад загадчыцы бібліятэкі “Юнацтва” М. Сандлер са словамі ўдзячнасці Р. Маленчанцы — “нашаму шматгадоваму і бескарыслівому сябру”, “нязменнай вядучай” і “добразычлівай гаспадыні” любімай усімі жыхарамі раёна літаратурна-музычнай гасцінай. “Пры гэтым Рыма Фёдараўна заўсёды застаецца прапагандыстам Тэатра, у тым ліку і свайго роднага Тэатра юнага гледача... Дзень пры дні гэты надзіва сціплы чалавек і цудоўная актрыса самазабыўна служыць свайму народу, свайму мастацтву. Нізкі наш паклон ёй за гэта і пажаданне далейшых поспехаў”.

Праўда, напісаны ліст быў даўнавата, але Р. Маленчанка засталася вернай сабе. Зараз яна бескарысліва дапамагае ладзіць спектаклі дзеткам нядзельнай школы пры Доме міласэрнасці. Пажадаем Рыме Маленчанцы і надалей заставацца такой жа няўрымслівай, нястомнай, не паддавацца гадам і заставацца ў творчасці.

**Дзіяна СТЭЛЬМАХ**



*Сцэна са спектакля “Марутка”, 1987 г.*

## ЛіМ ЧАСАПІС

### "Маладосць", N 5

**Змешчаны вершы Т. Сямірскай, Ю. Арэстава, М. Канановіча, В. Жыбуля, М. Курылы, А. Лойкі, Д. Самойленкі. Чытач пазнаёміцца з кароткімі апавяданнямі С. Грышкевіча "У навальніцу" і "Зямля", аповесцямі А. Варановіча "Валацуга" і С. Бязлепкінай "У межах Нагорнай пропаведзі", заканчэннем "сямейнай хронікі ў духу барока" У. Гніламёдава "Улас з Прускі". У гады Вялікай Айчыннай вайны вяртае матэрыял "Гэта было ў Сёмкаве" кандыдата гістарычных навук У. Паўлава. Публікуюцца заканчэнне падарожнага нарыса М. Карпечанкі "Па той бок Балтыкі", навелы Я. Конева "Па шляхах-сцяжынах пешшу...", нарыс І. Валасевіча "Не збяднее ніва блакітная", артыкул А. Казлова "Месца і роля рамана А. Мрыя "Запіскі Самсона Самасуя" ў развіцці беларускай сатыры", слова Ю. Станкевіча пра В. Казько "Пясняр "светлага" Апакаліпсіса" і К. Камейшы — пра У. Ліпскага "Вярнуцца ў вясну..." Я.Малец ("Шлях з Айчыны") рэцэнзуе кнігу паэзіі І. Пракаповіча "Шлях наканаванага бязмежжа". В. Трусевіч выступае з пародыямі. В. Дударанка ("Пошук адзінства чалавека і сусвету") прадстаўляе мастачку А. Нядзельку.**

### "Мастацтва", N 5

**Нумар адкрываецца артыкулам Алены Яскевіч "Генезіс старабеларускага ўплыву". Т. Смірнова гутарыць з народнай артысткай СССР Т. Ніжнікавай ("Тамара Ніжнікава: "На сцэне адчуваю сябе шчаслівай...") Субяседнік А. Сапранковай — мастацкі кіраўнік "Уніі" К. Насаеў ("Маленькі хор — гэта суперхор!"). Споведзь камп'ютэрнага самазабойцы — такі падзагаловак мае матэрыял А. Туровіча "Як выратаваць 20000 чалавек". Змешчаны артыкулы С. Кляцова "Лошыцкі муштабель, або Лошыцкая ідылія", Т. Мушынскай "Эсмеральда" — прэм'ера ці падзея?", С. Немагай "Нотная скарбніца нясвіжскага фарнага касцёла", У. Казлова і У. Парфянка "Метафізіка жыцця і метафізіка фатаграфіі Станіслава Ігнацы Віткевіча", Н. Бекус-Ганчаровай "Фотаапавяданні Паўла Жака", І. Сычовай "Валенцій Ванькові. Новыя знаходкі", В. Трыгубовіч "З Багданава — у вялікі свет", М. Жбанковай "Механіка тэлевізійных навінаў", Т. Валодзінай "Спадніца", Ю. Барысевіча "Пошук у Інтэрнеце". Г. Багданава ("Таямніца нашага побыту") рэцэнзуе кнігу Т. Валодзінай "Семантыка рэчаў у духоўнай спадчыне беларусаў". Ёсць падборкі "Дыскаграфія", "Хроніка мастацкага жыцця".**

### "Беларускі гістарычны часопіс", N 2

**Другі нумар штоквартальніка "Беларускі гістарычны часопіс" адкрываецца артыкулам галоўнага рэдактара "БГЧ" В. Кушнера "Радасць Перамогі і жалоба па загінуўшых", прымеркаванага да 55-годдзя з дня Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Гэтай жа даце прысвечаны і артыкул М. Смірнова "Дзейнасць савецкай разведкі і контрразведкі супраць нямецкіх спецслужбаў на тэрыторыі Беларусі ў 1941—1944 гг." Сярод іншых публікацый — артыкулы В. Чаропкі "Удзел войск ВКЛ у Грунвальдскай бітве", Я. Басіна і С. Барыса "Яўрэі і іудаізм на Беларусі", Х. Белькіна "Кулакі і фермеры на Беларусі", С. Белавуса "Вэксаль на Беларусі: гісторыя і сучаснасць", В. Фядосіка "Антычны трыумф хрысціянства, або Хрысціянская рэвалюцыя". Прадстаўлены раздзелы "Методыка. Вопыт", "Матэрыялы да ўрокаў", "Імёны вядомыя і невядомыя", "Рэцэнзіі", "Навуковае і грамадскае жыццё".**

### "Кантакты і дыялогі", N 4—5

**Апублікаваны артыкул "Здабыткі і праблемы Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў", што абагульняе вынікі работы гэтага грамадскага аб'яднання ў 1995—2000 гадах. Прапануюцца артыкулы ўдзельнікаў Трэцяга Міжнароднага кангрэса беларусістаў: "Беларусь незалежная дзяржава ці забыты светам этнаграфічны куток?" М. Саевіча, "Беларускія старадрукі ў чэшскіх бібліятэках" Ф. Сокалавай, "Хрысціянству — 2000" Л. Уладыкоўскай-Канаплянік, "Аб знаходжанні Арцёма Вярыгі-Дарэўскага ў Якуціі і яго сібірскім акружэнні" А. Баркоўскага. У раздзеле "Хто ёсць хто ў беларусістыцы" можна даведацца пра І. Апіне, Л. Брадоўскага, М. Космана, З. Мажэйку, Г. Мезенку, Н. Прушынскую, Р. Радзіка, У. Сакалоўскага, Я. Чыквіна. Тут жа змешчана паведамленне "Юбілей праўнучкі Аляксандра Ельскага" і слова К. Усовіча "Памяці сябра", у якім расказваецца аб заўчаснай смерці прарэктара па вучэбнай і выхаваўчай рабоце Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны М. Воінава. Ёсць традыцыйныя раздзелы "Рэцэнзуем кнігі", "Надрукавана пра кантакты ў Беларусі і ў свеце", "Хроніка беларусазнаўчага жыцця".**

# "Хвароба Шумілава" — ці не выклік багам?"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

паліклінікі А. Сакалянскі трапіў пад іх непасрэдны, а хутчэй за ўсё апасродкаваны ўплыў. Прынамсі, вышэйазначаныя асобы пры сустрэчы з Валерыем Мікалаевічам заўсёды выяўлялі сваю добрую інфармаванасць пра падзеі ў паліклініцы і ў судзе. Яны былі спакойныя, таму што набатныя лісты Шумілава ў высокія ўладныя структуры не далі вынікаў. Але той, хто давярае сумніўным чыноўнікам, будзе дзяліць з імі і ўсю адказнасць за справы ці то ў асобна ўзятым міністэрстве, ці то ў дзяржаве.

Я не ўзяўся б, праўда, сцвярджаць, што высокапастаўленыя асобы свядома наносілі і наносяць страты здароўю сваіх грамадзян і ў цэлым краіне. Яны проста па сваёй падрыхтоўцы і здольнасцях, па спадчыннай чыноўніцкай парадыгме мыслення не могуць інакш працаваць. Народжаныя поўзаць лятаць не могуць! У тым і адрозненне падобных людзей ад Шумілава, і ніякімі скаргамі санавітым вяльможам, а тым больш замяццю гэтых скаргаў, справу не выправіш. Якраз тут адзін з тактычных пралікаў у высакароднай і актыўнай грамадскай дзейнасці Валерыя Мікалаевіча.

**— А ўсё-такі, няўжо гарсуд не падаваў аніякай надзеі? Для мяне яна бліснула, калі ісцец, г. зн. В. Шумілаў, назваў некалькі парушэнняў і прыкладаў фальсіфікацыі дакументаў з боку адказчыка...**

— Так, пракурор С. Мышкавец проста па службовых абавязках павінен быў на гэта адрэагаваць, мог нават крымінальную справу ўзбудзіць супраць галоўнага ўрача А. Сакалянскага. Але замест гэтага мы бачылі на твары ў яго маску абыякавасці. Напрыканцы судовага пасяджэння пракурор у сваёй прамове паўтарыў абвінавачванні Шумілава ў духу Сакалянскага, нібыта суд Кастрычніцкага раёна не адмёў іх амаль начыста! Суддзяў гарадской калегіі не цікавілі ніякія "ключыкі" да разгадкі прычын "псіхатэрору" супраць участковага ўрача. Было ўражанне, што сябры Феміды прыйшлі на пасяджэнне з ужо гатовым і, мусіць, паабяцаным камусьці рашэннем. Чаму ж дзівіцца ў наш час, калі людзі з чыстым няўрымслівым сэрцам, свежымі думкамі ўсё больш адціскаюцца на абочыну жыцця. Прыкра! Аднак, скажыце, што, што пасля іх, дзівакоў, запануе ў грамадстве? Уменне мяняць скуру, прыстасоўвацца да любых абставін ды быць цішэй вады, ніжэй травы? Тады, глядзі, каб грамадства не з'елі свінні! Нам сёння моцна і шмат трэба думаць пра ліквідаванне хібаў у правах чалавека. Неабароненасць чалавека, сям'і і грамадства — асноўная загана супольнага жыцця беларусаў — што на пачатку, што ў сярэдзіне, што напрыканцы XX стагоддзя! Няўжо таўро праклёну кожны з нас носіць на сваім цемені?

**— Падобна на тое, што гэтая тэма для вас вельмі блізкая як пісьменніку?**

— Так, зараз я працую над тэмай сацыяльнай неабароненасці беларуса падчас рэжыму Пілсудскага ў Заходняй Беларусі, падчас фашызму, сталінізму дый цяпер. Я прыходжу да высновы, што ўсе нашы няўдачы і беды адтуль, што мы амаль страцілі самі сябе, перасталі быць народам. Вядома, не ўсё яшчэ страчана, але, але... Ці не характэрнай стала для нашага вялага і апатычнага грамадства "хвароба Шумілава" ўвогуле? Тая ж хранічная стомленасць... Тая ж імунная дысфункцыя! Мікроб, які прывёў нас да гэткага стану — нацыянальны нігілізм, я перакананы. А перадусім было вынішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі... Так што хутчэй за ўсё гэты твор будзе ў жанры палітычнага рамана.

**Гутарыў Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ**

# "Калі йсці, дык сцяжынай дабра!"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 6)*

любові — адданая вернасць. Для Л. Геніюш захаваць вернасць Беларусі і яе народу азначала не пайсці на кампраміс з апанентамі і ворагамі, не здрадзіць свайму сумленню і сваім прынцыпам, праўдзе і дабрыні:

***Моцны дух наш — дарагое рэчыва,***
***Словам, працай славімся здаўна.***
***Сцеражыце ж годнасць чалавечую.***
***Як жыццё, яна у нас — адна.***

*("Моцны дух наш — дарагое рэчыва...")*

"Не, нельга было йсьці на ніякія ўступкі, — спавядалася паэтэса, — мы ж, як ваякі, і Народ наш, і Зямля наша, і ўсе гуманныя здабыткі чалавецтва, і праўда, і Бог — ад такога не адступаецца нават перад грозьбай сьмерці".

Часта людзі, пераглядаючы сваю маладосць з вышыні пражытых гадоў, усведамляюць, што многім перакананням свайго сэрца і розуму, ідэалам, якім хацелася застацца верным да канца, яны здрадзілі. Жыццё складанае і супярэчлівае. Для таго, каб захаваць душэўны спакой, а то і выжыць, вельмі часта патрэбна было ісці на ўступкі. Але ці гэта сапраўднае жыццё?! Шчаслівы насамрэч толькі той, хто, нягледзячы на выпрабаванні і ўдары лёсу, застаўся верным сваім ідэалам, самому сабе, сваім унутраным памкненням, — "бо хто хоча душу сваю ўратаваць, загубіць яе, але хто загубіць душу сваю за Мяне і Евангелле, той ўратуе яе". Зместавай значнасцю і заўсёднай актуальнасцю дыхаюць згаданыя словы Святога Евангелля. Трэба думаць, для Л. Геніюш яны заўжды былі актуальнымі, выяўлялі духоўна-філасофскую аснову яе жыцця. Таму тое, што несла ў сабе ранняя творчасць паэтэсы — глыбока ўсвядомленую любоў да Бацькаўшчыны, адвечную беларускую цярплівасць, духоўна-маральную чысціню хрысціянкі, засяроджаны роздум над жыццём і чалавекам, — не проста засталося ў яе вершах пасялагернага перыяду, але і набыло яшчэ большую каштоўнасную сілу акцэнтацыі, бо прайшло выпрабаванне і пацвярджэнне-актуалізацыю цяжкімі гадамі зняволення.

Паэтычная спадчына Л. Геніюш прадстаўлена яшчэ двума зборнікамі: "Невадам з Нёмана" (1967) і "На чабары настоена" (1982). Кожны з іх па-свойму ўбірае асаблівасці духоўнага свету, погляды, перажыванні і надзеі паэтэсы на розных этапах яе жыццёвай дзейнасці. Вельмі натуральна тое, што любая ідэя, калі яна ўвасабляецца, мае сваю дынаміку развіцця, сваю эвалюцыю. Кожны зборнік Л. Геніюш праз прызму перажытага аўтаркай дадае ўсё новыя і новыя адценні ў выяўленне яе адносін да Бога, да Радзімы, да людзей. Так, высокая грамадзянскасць вершаў Л. Геніюш напрыканцы яе жыцця асветлена аўрай лірычна-філасофскага пераасэнсавання мінулага і цяперашняга, прадказання будучага. Успамінаючы ўсіх, каго давялося страціць, паэтэса адчувае пякучы боль з "незагоеных ранаў". Цягам усяго жыцця дарэшты аддаючы сябе іншым, цяпер яна мае вострую патрэбу ў душэўным цяпле, шчырых і даверлівых сямейныхварунках, клапатлівых стасунках з бацькамі, мужам, сынам.

Шмат у чым паказальным тут з'яўляецца верш "Апошні дотык рук на твары чую..." Наўрад ці хто зможа чытаць яго з душэўным спакоем і халоднай развážлівасцю. Перахопліваецца дыханне і шчымліва сціскаецца сэрца ўжо ад першага слова — "апошні". Апошні — значыць, самы дарагі, самы блізкі і прыемны, але тым жа часам самы балючы, бо такі кароткі, самы памлівы. Гэтае слова своеасаблівым трагічным лейтматывам праходзіць праз усё жыццё Л. Геніюш. Апошняя сустрэча з бацькамі, апошні позірк на Прагу, апошнія словы на волі... Так жыла Л. Геніюш, ставячы на высокі п'едэстал Бога, любоў да Беларусі, чалавечнасць і годнасць, так пісала — шчыра, праўдзіва, захоплена, глыбока ўсведамляючы сваю місію прарока, — нібы гэта апошні дзень яе жыцця. Таму кожны верш яе, кожны паэтычны радок дыхаюць свежасцю, глыбінямі выяўлення пачуццяў.

"Апошні дотык рук на твары чую" — рук, якія дакраналіся не раз, не раз выцíралі слёзы, не раз прытулялі, супакойвалі пякучы боль. Як цяжка ўсведамляць, што болей іх не будзе, як цяжка і хораша думаць, што ёсць яшчэ тое, што з'яўляецца нявыказаным:

***Апошні раз мой муж мяне цалуе***
***З нявыказаным да канца каханнем.***

Не хапіла часу, не хапіла жыцця, каб нацешыцца адно адным, каб выказаць тое, што часта адкладваем на потым. Пакручасты, цярністы лёс краў у Ларысы і Янкі Геніюшаў магчымасць быць разам, радавацца свайму шчасцю. Лёс выкраў самае дарагое, што было ў іх, — сына Юрку.

Смерць прыходзіць, каб забраць усе надзеі і мары, планы на будучыню.І калі яна заяўляе пра свае правы, хочацца абурацца, пратэставаць, не згаджацца. Л. Геніюш адчувае, што смерць — гэта ненармальна, што смерць — гэта не тое, для чаго створаны чалавек. Смерць — гэта злодзей, які крадзе ўсё, што набыта, што народжана жыццём. Выхаваная на хрысціянскай маралі, паэтэса адным толькі словам — "яшчэ" — выказвае сваю веру ў наступнае: Ісус Хрыстос перамог смерць, і нас чакае ўваскрашэнне і вечнае жыццё разам з ім ("бо ўсё яшчэ смяротнае на свеце").

Праўдзівасць, шчырая натуральнасць у выказванні пачуццяў, душэўная адкрытасць і адгуклівасць з'яўляюцца вызначальнымі рысамі Л. Геніюш як асобы. Яна не баіцца адкрыта сказаць пра сваю слабасць, пра тое, што яна не тытан, а просты чалавек, якому патрэбен перш за ўсё іншы чалавек, іншая асоба. А, можа, такі лёс усіх творцаў — аддаваць самае дарагое, самае інтымнае на суд людзей, гісторыі...

***Не адлятай ад рук маіх знямоглых,***
***Не пакідай, каб сэрца не балела,***
***Здаецца мне, што дзён гэтак нямнога,***
***З Табой пражытых, хутка адляцела.***

***Прайшлі гады, а для мяне хвіліны,***
***Супольных мараў, сноў аб Беларусі,***
***Ў нас дзве душы, а шлях іх быў адзіны,***
***Як жа цяпер сама я застануся?***

Пытанне, якое засталося ў вершы рытарычным, пранікае ў душу чытача той зместавай акалічнасцю, што не нясе ў сабе звыклай у такіх сітуацыях спагадлівай дапамогі і ўцехі. Яно акцэнтуе атмасферу душэўнай адзіноты, у якой жыла паэтэса.

У гэтым вершы — уся Ларыса Геніюш як жанчына і хрысціянка, як грамадзянка і паэтэса, як беларуска. Адметнасць яе вобраза — у спалучэнні самага звычайнага, простага і ў той жа час самага складанага, вызначальнага ў жыцці. Глыбокі праблемна-тэматычны змест, спавядальнасць, якія з'яўляюцца адной з важнейшых асаблівасцей яе творчасці, кранае чытача і ў гэтым вершы, абуджаючы яго ад сну паўсядзённасці, ставячы перад усімі намі адвечныя пытанні чалавечага існавання на зямлі.

Недахоп любові чалавечай ці, лепш сказаць, дэфіцыт людскога прыняцця, разумення спрыяюць таму, што Л. Геніюш яшчэ больш наталяе сваю смагу з крыніц хараства роднай зямлі, мінулага народа:

***Што ж, паранілі, пакалечылі,***
***Ў жыцці душу маю не раз,***
***Уздымаю яе, падлечваю,***
***Дрэвы родныя, каля вас.***

*("Стома дня, бляск вачэй маіх сумных...")*

Яна разважае адносна пройдзенага ёю жыццёвага шляху, асэнсоўвае свае маладыя гады, дзеліцца з чытачом вопытам, духоўнымі здабыткамі:

***Маладосць — мая песня і сіла,***
***Поўня сэрца і мараў палёт,***
***Што пасеяла — ўсё ўскаласіла***
***І жаданы дало умалот.***

*("Маладосць — мая песня і сіла...")*

Сталасць прынесла ёй разуменне той няхітрай акалічнасці, што мяжа, якая раздзяляе дабро і ліха, праўду і хлусню, праходзіць не паміж дзяржавамі, не паміж партыямі, а праз кожнае чалавечае сэрца. Унутры кожнага з нас ідзе барацьба за тое, у які бок зрушыцца гэтая мяжа. У гэтай барацьбе трэба вытрываць, і не проста вытрываць, а перамагчы:

***У жыцці добрае і паганае.***
***Паміж імі адвечны бой,***
***Калі верыць, дык у беззаганнае,***
***Пакланяцца — праўдзе адной.***

("У жыцці добрае і паганае...")

Пакланіцца праўдзе, ахвяруючы плоцевым і душэўным, каб захаваць духоўнае, — "быць людзьмі. Не толькі імі звацца", "стаць клічам людскасці" — вось прынцыпы, крытэрыі, па якіх жыве паэтэса і сёння ў сэрцы свайго народа, па якіх павінен жыць кожны з нас:

***Мы не ведаем, заўтра што будзе,***
***Ў тайны лёсу ніхто не пранік.***
***Розум часта не грэе, а студзіць,***
***І фальшывым бывае разлік.***

***Ўсё на свеце дачаснае, таннае,***
***З гліны мы і чыйгосьці рабра.***
***Калі верыць, дык у беззаганнае,***
***Калі йсці, дык сцяжынай дабра!***

**Мікола МІКУЛІЧ,**
**Анастасія МІХАЛЕНКА**

*г. Гродна*





# "Нёманскі шлях" Яўгена Казюлі

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі ў рамках праекта "XX стагоддзе ў фотаздымках" праходзіла выстава Яўгена Казюлі "Нёманскі шлях". У мінулым годзе мы сустракаліся з вядомым фотамайстрам у Нацыянальным музеі на выставе "Час цішыні" сумесна з польскім і нямецкім фатографамі. Праект выставы "Нёманскі шлях" быў падтрыманы Міністэрствам культуры Беларусі, аўтару была прызначана Дзяржаўная стыпендыя 1999 г. Шмат гадоў Я. Казюля ўзначальваў старэйшы фотаклуб рэспублікі "Мінск", а цяпер сваёй персанальнай выставай працягнуў выставачны цыкл, прысвечаны саракагоддзю клуба.

На выставе экспанаваліся 60 фотаздымкаў, якія з'явіліся вынікам працы мастака ў час вандровак на ровары ўздоўж Нёмана, ад самых вытокаў да мяжы з Літвой. Фотамайстар так патлумачыў ідэю ўзнікнення праекта: "Багата Нёманская зямля на людзей таленавітых. І захацелася на свае вочы пабачыць гэты цудоўны край, дакрануцца да старажытных муроў, знайсці і зразумець вытокі дабраты, шчырасці і годнасці нашых людзей".

Здымаў Яўген не толькі краявіды Панямоння, але стары млын і разбураную капліцу, муры замка і цэрквы (работы "Муры Старога замка ў Гродне", "Каложская царква ў Гродне", "Маламажэйкаўская царква", "Коласаўская Альбуць", "У Графскай пушчы", "Замак у Міры", "У былым маёнтку Над-Нёман Я. Наркевіча-Ёдкі"). Шэраг работ прысвечаны жыхарам з Панямоння, простым, шчырым, працалюбівым. Перад вачыма паўстала галерэя партрэтаў: простых сялян (працы "Хутаранін", "Бабуля з вёскі Кругліца", "Майстар Міхаіл Ермаковіч з вёскі Белькаўшчына" і інш.), мясцовай інтэлігенцыі (фота "Музыкант і педагог Іван Сцяпанавіч Янкоўскі", "Краязнавец з Жукава Барка Анатоль Аляксандравіч Крамко з жонкай Нінай Герасімаўнай").

Калі глядзіш на гэтыя твары, заўважаеш не толькі іх прыгажосць і дабрыню, але і адчуваеш, з якой павагай, любоўю ўглядаецца ў іх мастак. Яўген Казюля зачараваны прыгажосцю Нёманскага краю, яго людзей. Аднак разам з аўтарам мы востра адчуваем і боль за тую абыякавасць, з якой мы часам ставімся да сваёй гістарычнай і культурнай спадчыны. Многія з гэтых фотаздымкаў маюць не толькі мастацкую, а ўжо і гістарычную каштоўнасць. Таму што, са слоў фотамастака, на тых месцах, дзе ён яшчэ зазняў рэшткі былой капліцы, млына ці былога маёнтка, ужо засталася пустэча.

Фотавыстава "Нёманскі шлях" атрымалася цікавай і карыснай як для фатографаўпрафесіяналаў, фотааматараў, так і для самага шырокага кола наведвальнікаў. Кожны, хто пабываў на выставе, выходзіў з адчуваннем натхнёнасці, прасветленасці (пра што, дарэчы, сведчаць шматлікія словы захаплення і ўдзячнасці ў "Кнізе водгукаў").

Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі надае важнае значэнне фотамастацтву. Не першы год тут рэалізуецца праект "XX стагоддзе ў фотаздымках". Хочацца пажадаць Яўгену Казюлі цікавых вандровак, творчых поспехаў. А планаў і задум у фотамайстра нямала.

**Наталля МАРЦЫНКЕВІЧ**

***На здымках:***
*былы маёнтак Храптовічаў у Шчорсах Карэліцкага раёна;*
*"Хутаранін";*
*дзюны каля вёскі Слабодка Стаўбцоўскага раёна;*
*камяні — сведкі мінуўшчыны;*
*памятны крыж на беразе Нёмана ў Стаўбцоўскім раёне;*
*у былым маёнтку Я. Наркевіча-Ёдкі, Уздзенскі раён.*









 ЧАСАПІС

## Шыкоўная сівая даўніна

Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі наладзіў выставу бісернай вышыўкі "Шык і рамантыка даўніны". Экспанаты ўзяты са збору Віцебскага краязнаўчага музея (адзін са старэйшых у рэспубліцы, існуе з 12 лістапада 1918 года). Музей амаль цалкам створаны на базе калекцыі Р. Брадоўскага. Ён "из побуждения принести пользу делу народных масс" на працягу больш як пяцідзесяці гадоў збіраў прадметы нумізматыкі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У пачатку XX стагоддзя ў Вільні існаваў ягоны прыватны мастацка-археалагічны музей. Потым, у 1915-м, з набліжэннем да Вільні фронту першай сусветнай вайны, Брадоўскі эвакуіраваўся ў Віцебск...

Усе вышыўкі, бісерныя вырабы, прадстаўленыя ў калекцыі, сабраны ў канцы XIX—пачатку XX стагоддзя на тэрыторыі Віленскай і Ковенскай губерань (зараз — Віцебская вобласць).

Вышыванне бісерам вядома са старажытных часоў, але як самастойны від прыкладнога мастацтва яно праіснавала адносна нядоўга. Калі ў 1810—30-ыя гады захапленне бісерам дайшло да апагею, то ўжо ў 70—80-ыя таго ж стагоддзя захапленне ім амаль скончылася. Аднак у 90-ых гадах гэты від мастацтва прыцягвае да сябе ўвагу калекцыянераў.

Усе вышываныя вырабы па тэхніцы выканання дзеляцца на вышыўкі гарусам, шоўкам з дабаўленнем бісеру або без яго, вышыўкі бісерам, вырабы, вязаныя з бісеру кручком. Гэта карціны, камінныя экраны, спінкі крэслаў, чахлы для парасонаў... На тканіну пераносіліся творы мастакоў, партрэты гістарычных асоб, біблейскія сцэны... Ствараліся вырабы ў маленькіх майстэрнях. Узорамі часцей за ўсё былі італьянскія і нямецкія творы.

Тэхніка выканання — складаная: іншым разам у адным вырабе выкарыстоўваецца 20-30 відаў бісеру (каля 10000 бісерынак) — работа сярэдняга фармату. Спачатку бісер быў дробны, з цягам часу яго памеры павялічыліся. Па гэтым можна меркаваць аб часе стварэння работы.

**Вольга АНЦІПЕНКА**

## "Роднае слова", N 5

Вершы М. Танка, М. Сурначова, Х. Жычкі, А. Пысіна, П. Пранузы, Ю. Свіркі, А. Вольскага, П. Панчанкі змешчаны пад рубрыкай "Са святам Перамогі!". Артыкул І. Гетмана "Брацця, зраблю вас багатымі..." мае падзаголовак "Жыццёвы і творчы шлях У. Жылкі ў даследаваннях У. Калесніка". Мастацка-выяўленчых сродкі ў паэтычных творах У. Жылкі — тэма артыкула В. Старычонка "...Мой запавет, як плод даспелы..." Духоўную прысутнасць і вобраз Якуба Коласа ў творчасці беларускіх паэтаў разглядае А. Бельскі ("Песні Коласа нас навучылі Радзіму любіць..."). Змешчаны артыкулы З. Мельнікавай "Канцэпцыя мастака і абставін у паэме "Сымон-музыка" Якуба Коласа і ў творах Змітрака Бядулі 20-х гг.", В. Максімовіча "Праблема "Дзвюх душ" у ранніх апавяданнях Максіма Гарэцкага", В. Азаркі "Абзац у творах Кузьмы Чорнага", Н. Лапіцкай "Уласныя імёны ў замовах: асаблівасці ўжывання", М. Падгайскага "З гісторыі цюркізмаў у беларускай мове", А. Каўруса "Словы без прапіскі. Пазаслоўнікавая лексіка беларускай мовы", З. Падліпскай "Без чалавечнасці не будзе і вечнасці", М. Мушынскага "Паэма Якуба Коласа "Сымон-музыка", А. Бондзіч "Выхаванне патрыятызму праз творчасць пісьменнікаў Уздзеншчыны", Т. Шамякінай "Станаўленне монатэістычных рэлігій", М. Паграноўскага "Слынны беларускі рамантык", І. Сычовай "Валенцій Ванькові. Партрэты сяброў па Віленскім універсітэце", І. Германовіча "Мікалай Каспяровіч", В. Ляшук "Пачынальнік літаратурнага краязнаўства ў школе", працяг артыкула Р. Стаховіч-Ларчанкі "Буду сніць і днямі і начамі" (лірыка кахання М. Багдановіча) і іншыя матэрыялы.

## "Чыжык беларускі" і яго аўтар

Сённяшні чытач па-сапраўднаму адкрыў для сябе творчасць Гальша Леўчыка ў 1980 годзе, калі выйшла кніга яго выбраных твораў "Доля і хлеб". З яе можна было даведацца і пра жыццёвы шлях пісьменніка. А нарадзіўся Г. Леўчык (ад нараджэння Ілья Міхайлавіч Ляўковіч) 20 ліпеня 1880 года ў горадзе Слоніме. Скончыў Слонімскае павятовае вучылішча. Працаваў пісарам у міравога суддзі, пазней — у каморніка. З 1904 года жыў у Варшаве, да 1920-га быў чарцёжнікам у прыватнай фірме. Памёр у верасні 1944 года ў Варшаве.

Упершыню Г. Леўчык выступіў у 1908 годзе на старонках газеты "Наша Ніва". У 1912-ым у Вільні выдаў зборнік вершаў "Чыжык беларускі". Падрыхтаваў і другую кнігу пад назвай "Беларускі жаваранак", але яна так і не пабачыла свет. Пасля Г. Леўчык друкаваўся ў заходнебеларускіх газетах і часопісах. Некаторыя яго вершы змешчаны ў "Хрэстаматыі беларускай літаратуры" І. Дварчаніна (1927).

# ПАМОРАК

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—1)

А калі яцвяг пабудаваў яшчэ вось гэты мост, яны з Вулянаю пачалі жыць не сказаць каб багата, але і не бедна — у іх на стале пачалі з'яўляцца і запечаныя лебедзі, і гатаваныя жаўранкі, і двайная юшка, і заліўная зайчаціна...

Аднак удосталь нацешыцца сваім шчасцем ім не ўдалося.

Разбойнікі, якія зламаліся на лоўкасць і шчырую службу лаўца, перастрэлі аднойчы яго аднаго ў лесе і — ім было за што яму помсціць! — выкруцілі Небру нагу. Не забілі, не зарэзалі, а толькі пакалечылі нагу, каб болей ён не мог паляваць на іх...

Вуляна, не выпускаючы са свае рукі пухленькай ручкі дачушкі, нясмела, асцярожна ступіла на свой мост.

Ад часу Нёбравага калецтва за гэтым мостам ужо ніхто не глядзеў — ніхто не папраўляў яго, не рамантаваў. А цяпер, у гэты паморак, мост зусім стаў не патрэбны — хто і што будзе вазіць па ім, калі ўвесь набытак людзей зараз можа змясціцца ў жабрацкіх торбах!

Ісці па мосце было нязручна — коткія бярвенцы, якія нічым ужо не прывязаны да лаг, круціліся, выслізгвалі з-пад ног, і Вуляна, лёгкае цела якой усё апярэджвала ацяжэлыя ногі, з усіх сіл стрымлівалася, каб не ўпасці. І ўсё ж не ўтрымалася, паваліліся, калі першаю, спатыкнуўшыся, усунуўшы ножку ў дзірку ў мосце, паляцела Любімка, пацягнуўшы за сабою і маці.

Дачушка ўсхапілася адразу ж, а Вуляна, падымаючыся, узялася за струхлелую парэнчу, якая засталася толькі з аднаго боку, аднак парэнча захісталася, і яна зноў села на мост.

Вабіч пад ёю маўчала. Яна плыла так спакойна, павольна, бясшумна, што здавалася, быццам вада зусім не цячэ, а стаіць на месцы. Праз шчыліны між бярвенцамі яна бачыла, што і пад мостам рака не бурліць, не шуміць, а натыкнуўшыся на палі, спакойна, ціха абцякае іх з двух бакоў. Аж не верыцца, што вунь там, ніжэй, на завароце, яна збівала іх некалі з ног.

Вуляна падпаўзла да самага краю моста і ўглядзелася ў запаволеную плынь Вабічы. І гэты спакой, і гэтая запаволенасць нібыта самі сабою запливалі ў яе і напаўнялі нейкай дзіўнаю незямною цішынёю.

Рака... Вада... Спакой... Цішыня...

Дык вось, вось жа яно — вырашэнне ўсіх клопатаў і турбот! Не трэба нікога шукаць і хваляваца ад таго, што тыя, каго ты шукаеш, схаваліся так, што іх немагчыма знайсці...

І ёй вельмі захацелася туды, уніз, дзе так ціхаплынна цячэ вада, дзе, патрыvoжаныя ёю, на дне ракі лена перакочваюцца пясчынкі, а далей, ля самага берага, нячутна варушацца травінкі, якія зайшлі ў раку...

Дык вось жа яно, яе шчасце!

Вуляна ўзялася за слупок парэнчы і пачала — як забілася ў ім яе сэрца! — падсоўваца бліжэй, бліжэй, бліжэй — на самы край... Але тут Любімка спалохана закрычала:

— Мамка, куды ты?!

І сваімі пальчыкамі ўзялася расшчэпліваць матчыны пальцы, якія моцна сціскалі калок. Вуляна неахвотна выпускала патрэсканае дрэва з рук і толькі злавалася на дачку, якая замінае таму, што вось-вось магло адбыцца...

Калі Любімка адагнула ад калка апошні матчын палец, Вуляна, як мёртвая, упала спіною на мост і заціхла — ёй замінаў рубежаваты лал у торбе, на які яна адкінулася, але маці не зважала на гэта і не варушылася.

Цяпер сэрца яе было ў спіне. А можа, і ва ўсім мосце — яе так калаціла, што аж падкідвала на бярвенні. Як усё роўна сэрца яе размножылася і цяпер білася ў кожным кругляку пад спіною.

І ў гэты час з боку недалёкага лесу пачулася тужлівая песня — нехта ці то плакаў, ці то прычытаў там:

*Ой, цёплае сонейка так ласкава грэе,*
*А мяне ж яно абмарожвае.*
*Ой, рассаджу я ды па ўсіх красачках*
*Ды сваю тугу незагойную.*

Песня была ціхая, журлівая, сумная. Той, хто спяваў, здаецца, даставаў не толькі сваю душу, але і душу таго, хто слухае. І раптам песня як узарвалася, спявачка як загаласіла:

***Ай, спадарыня, перапёлачка,***
***Ай, мая зорухна, маё сонейка,***
***Дай жа дзіцятку хоць бы зернетка,***
***Хоць бы лыжачку, хоць бы кропельку***
***Варыўца сырога-а-а-а...***

Песня разрывала душу. Але Вуляна слухала яе надзіва абыякава — яна як быццам супакойвала яе.

— Глядзі ты, — як сама сабе вымавіла яна, — жывая. Не з'елі яе ваўкі.

— Пра каго ты, мамка? — спыталася Любімка.

— Ды пра Бялуху, — адказала ёй маці.

Яшчэ калі і Вуляна не збіралася шукаць Усвяцкую пушчу, Бялуха, гаротная ўдава княжацкага дружынніка, збіральніка даніны Гарнастая, калі паела ўсю лебяду і на двары, і за хатаю, каб хутчэй скончыліся галодныя пакуты, з маленькім сваім сынам пайшла ў лес — на з'ядзенне звярам. Але як назнарок іх, быццам зачараваных, бокам абыходзілі ваўкі, а ў дадатак да ўсяго малы Бераж адшукаў у лесе нейкія смачныя салодкія карэнні, еў іх сам і карміў імі маці.

Гэта ж колькі ўжо часу прайшло, а яны ўсё яшчэ жывыя...

— Бачыш, дачушка, як яно бывае, — не гледзячы на Любімку, задумалася Вуляна. — Таго, хто хоча памерці, ваўкі не чапаюць, а хто не хоча — абавязкова з'ядуць.

— Мамка, мне страшна. Пойдзем хутчэй адсюль, — плакала малая і ўзялася падымаць маці.

Вуляна, каб, устаючы, выпадкам не віхлянуцца, не ўпасці ў раку, адсунулася далей ад краю моста і з дапамогаю дачкі пачала падымаца на ногі.

Як яны перайшлі Добрае Поле, яна яшчэ памятае — іх увесь час даганяла, нібы падпіхвала ў спіну галашэнне Бялухі.

***Хоць лыжачку варыўца сырога-а-а-а.***

Памятае таксама, як яны ўбачылі сваё селішча, драўляны комін над зялёнаю страхою — Любімка вельмі ўзрадавалася гэтаму.

Але яна ўжо не памятае, што было далей — як дайшла да свае хаты, як ужо на сваім ганку ўпала на рукі Небра.

Ачнулася Вуляна ў хаце. Яна ляжала на мядзведжай шкуры, а Небр стаяў над ёю з карцом у руках і пырскаў на яе твар вадою. Першае, што кінулася ў вочы, былі чамусьці стружкі ў яго барадзе. А твар у мужа і цяпер быў непраніклівы. Яна разумела, што робіцца зараз у яго душы, аднак аблічча зусім не выдавала гэтага.

— Як ты тут жыў без нас? — ласкава спыталася Вуляна. — Што рабіў?

— Цэбар вунь закончыў, — аднымі вачыма ён паказаў некуды за яе.

Яна, не ўстаючы, павярнула галаву і за сваёю спіною ўбачыла новую балею — з кароткіх клёпак, з двума вушкамі, каб было за што браца. Усміхнулася:

— Вось і добра. Нагрэем вады, ды і пакупаем Любімку. Пыл, што ў дарозе набраўся, змыем з яе.

Яна даланёю выцерла мокры ад пырскаў твар, зірнула ў вочы Небру:

— А дзе твой заяц? Ты ж сіло рабіў.

— Няма зайца, — Небр адвёў вочы ўбок — не вытрываў яе позірку. Ад рэзкага руху выпала з барады стружка, упала на Вулянiну руку.

— Не злавіў?

— Не, злавіць-то злавіў, але яго нехта з сіла выняў...

— А што ж ты сам ясі?

Небр моўчкі пакульгаў да сцяны, зняў з яе новую вязанку сушаных хохлікаў, якая вісела на тым жа самым месцы, і, вянуўшыся, асцярожна паклаў на мядзведжую шкуру перад Вулянаю.

— А яшчэ ў мяне варыва ёсць. Жменю мукі-міжсіткі расстараўся, у траву ўсыпаў.

Абнавіць балею, пакупаць у ёй Любімку ім не ўдалося — наеўшыся варыва і хохлікаў, яны ўсе трое моцна і нязбудна заснулі. Вуляна, праўда, некалькі разоў за ноч прахоплівалася ў нейкай невыразнай трывозе, але, палапаўшы каля сябе, нібы шукаючы чаго, па мядзведжай поўсці, зноў праваливалася ў цяжкі і нездаровы сон.

А рана ўраніцы іх усіх разбудзіў незразумелы шум пад вокнамі — пад'ехалі нейкія калёсы, спыніліся ля хаты, загаварылі людзі.

Вуляна яшчэ не прачнулася, не паспела як след адплюшчыць вочы, як у хату ўвайшлі двое мужчын.

— Хопіць спаць! — нават не павітаўшыся, гучна загукаў на ўсю хату адзін з іх, а потым, нібы засаромеўшыся свайго крыку, сказаў цішэй: — Уставай, Вуляна, гаворка ёсць.

Вуляна пачала падымацца. І зрабіла гэта, мусіць, рэзка, бо ў яе закружылася галава і яна ледзь не ўпала зноў на шкуру, але ўхапілася за вушкі новай балеі і толькі так устояла на нагах. Усё яшчэ трымаючыся за вушкі, абышла балею і села на лаўку каля сцяны.

— Ты што, Вуляна, хворая? Заразу маеш? — занепакоіўся мужчына, крыху адышоўся ад яе і надзеў на галаву зноў зімовую ваўчыную шапку, якую трымаў ужо ў руках, — як усё роўна збіраўся ўцякаць.

Брата князя Васількі Вуляна пазнала не адразу. Толькі пасля таго, як ён зняў шапку, з-пад якой, вызваліўшыся, адразу ж сталі дыбка густыя валасы, яна ўспомніла, што гэта Давойна.

— Не бойся, Давойна, ніякай заразы ў мяне няма. Балазе абыходзіць нашу хату пакуль зараза, — сказала яна і нават паспрабавала пажартаваць: — А хістаюся я, відаць, ад таго, што гэтую ноч пераспала... Падыходзь, Давойна, бліжэй, не бойся. Чаго так парану прыехаў?

Князеў брат, хоць і няўпэўнена, але ўсё ж падышоў да Вуляны, сеў побач на лаўку, зноў зняў шапку — лета на носе, а ён у зімовай шапцы парыцца! — паклаў кучомку між сабою і ёю — нібыта гэтым хацеў абараніцца, аграрадзіцца ад заразы, калі яна ўсё ж ёсць у гэтай хаце.

Вуляну нечакана забілі дрыжыкі. Сунімаючы іх, яна гаварыла да госця:

— Ну і схаваліся ж вы, Давойна, ад паморку. Мы з Любімкай увесь Усвяцкі лес абышлі, але вас так нідзе і не знайшлі.

— А чаго вы там шукалі? Князь жа ў Відзеніцкай пушчы жыве.

Вуляна, здаецца, не здзівілася пачутаму — быццам яна і сама гэта ўжо ведала.

— А як там мая сястрыца, Давойна? Давойна не адразу адказаў ёй. Маўчаў доўга, а тады ўздыхнуў:

— Няма ўжо ў цябе, Вуляна, сястры.

Вуляна не зварухнулася. Сядзела, маўчала і толькі няўцямнымі вачамі глядзела на Давойну — быццам і не чула таго, што ён сказаў ёй.

— І ў лесе не схавалася Міхаліна, — задумліва гаварыў госць. — Нехта і ў лес прынёс заразу. Можа, людзі, можа, сабакі. А можа, і ваўкі. Яны ж заражаюцца ад мёртвых... Усе мы тут у гасцях госцім.

Аднак і пасля гэтага Вуляна не ачнулася. Яна сядзела нерухома і толькі глядзела ў адну крапку — некуды за Давойну, у далячынь.

— Дык вось, Вуляна, калі памірала княгіня, яна прасіла князя нікога не браць сабе ў жонкі, апрача цябе. Непакоілася, што любая іншая мачаха не будзе маткаю яе дзецям. А ты з ласкаю і дабратою будзеш гадаваць іх. Вось князь і прысылаў мяне па цябе. Так што збірайся, паедзем.

Наступіла даўкая цішыня. Маўчала Вуляна, усё гледзячы за Давойну, маўчаў Небр, пахмурна пазіраючы сабе пад ногі, маўчала Любімка, якая гладзіла маці па руцэ.

— А яе куды? — нібы прачнулася Вуляна і прытуліла да сябе дачку.

— Бяры з сабою, — параіў Давойна. — Яды і ёй хопіць. І ты ж вунь высахла ўся. Як сцень стала. Цяльба табе самой нада.

— А Небр? — Вуляна рашуча павярнулася на хату, нібыта шукаючы вачыма мужа.

— Ты ж ведаеш, што Васілька не хоча з-за яго сварыцца з князем Глебам. Не хоча па-новаму гнявіць яго...

— Не паеду! — рашуча закрычала яна.

Небр стаяў у парозе, быццам пільнуючы, каб ніхто не зайшоў без патрэбы ў хату і не выйшаў з яе.

— Едзь, Вуляна, — глуха, але цвёрда сказаў ён. — Ты ж сама той Усвяцкі лес столькі шукала, а цяпер адмаўляешся ехаць.

Вуляна паволі, не спяшаючыся — мусіць, баялася, што зноў закружыцца галава, — пайшла да парога — нібыта яна, вырашыўшы ехаць, выходзіла з хаты, каб вось зараз садзіцца на калёсы. Але раптам, дайшоўшы да мужа, яна кінулася яму на шыю і зноў выдыхнула:

— Не паеду!

Яцвяг не чакаў такога ад жонкі, а таму, не ўтрымаўшыся на адной назе, нязручна сеў на лаву, дзе сталі драўляныя ваданосы, быў іншы посуд. З яе паляцелі доле, пакаціліся па падлозе стаўцы, гаршкі ды гарлачы, пасыпаліся

розныя накрыўкі. Яна ж, не зважаючы на гэта, ашчаперыўшыся за Небра, не выпускаючы яго са сваіх рук, нібы ўгаворваючы і сябе і астатніх, паўтарала, праўда, ужо ціўшэй, адно і тое ж:

— Не паеду, не паеду, не паеду...

Сядзець вось так, напаўлежачы, прысланіўшыся галавою да сцяны, Небру было нядобра, няёмка, але ён, трымаючыся абедзвюма рукамі за лаву, рабіў усё, каб не патрывожыць жонкі, якая ўсё яшчэ вісела на ім. Яму самому хацелася абняць яе, каб аж затрашчалі косці, аднак замест гэтага ён спакойным і нават адчужаным голасам казаў:

— Трэба, Вуляна, ехаць. Трэба. Трэба ратаваць Любімку.

Вуляна, пацішэлая, крыху супакоеная, ужо, здаецца, і згаджалася, што трэба ехаць у лес, да князя, каб схаваць там ад паморку сваю Любімку, а потым зноў, як усё роўна ўсяляўся хто ў яе, крычала:

— Не паеду!

І ўсё ж агульнымі намаганнямі яе ўдалося пераканаць, што яна, паехаўшы, пажыўшы там, у лесе, угаворыць потым князя, і той згодзіцца забраць да сябе і Небра.

Першы пайшоў з хаты вазатай, які так і прастаяў увесь гэты час моўчкі, не сказаў ані слова.

Вуляна наўзверх сарафана апранула сваю любімую целагрэю — лёгкае жаночае плацце, якое насіла яшчэ ў Друцку, прыбрала ва ўсё лепшае, што было ў яе, Любімку і пайшла да дзвярэй.

Пакуль збіраліся Вуляна і Любімка, Небр стаяў, як укапаны, на адным месцы. З хаты ён выйшаў ужо тады, калі крануліся калёсы, калі заплакалі Вуляна і Любімка. Сам Небр не плакаў — усё ў ім нібыта скамянела, — адно толькі няпэўна махнуў рукою; па яго непраніклівым твары і цяпер нельга было ўявіць, што робіцца з ім, якія буры віруюць у душы яцвяга.

Калі ўжо з Добрага Поля жонка з дачкою ў апошні раз памахалі яму рукамі, ён таксама няўпэўнена падняў сваю і той жа час апусціў яе: позна, яны ўжо ўсё роўна нічога не ўбачаць. Не стаўшы чакаць, калі калёсы зусім схаваюцца за пералескам, Небр павярнуўся і, валочачы пакалечаную нагу, пакульгаў у хату.

Каля ганка, пад сцяною, стаяла вязаная барана з драўлянымі зубамі, ён зачапіўся за яе, бяздумна памацаў вузлы, пахітаў зуб'е, не разумеючы навошта гэта робіць.

Падняўся на ганак, пайшоў да дзвярэй у хату, якія ўсё яшчэ былі расчыненыя напята...

У хаце спрабаваў нешта рабіць, нечым заняцца, аднак нічога ў яго не выходзіла — усё валілася з рук.

Убачыў на мядзведжай шкуры торбачку, з якою Вуляна хадзіла шукаць князя, падняў яе, каб прыбраць куды, аднак адчуўшы, што яна не парожняя, палез у яе рукою і дастаў лал. Камень быў халодны і бліснуў нейкім трывожным цьмяна-чырвоным святлом. Успомніўшы, што Вуляна вельмі любіла свой камень, пашкадаваў, што жонка забылася яго, і падумаўшы, што з ім зараз рабіць, паставіў на ранейшае месца — на палічку ў покуце.

Доўга стаяў, бяздумна глядзеў на лал і адчуваў, як па ім ад ног да галавы падымаецца нейкая незразумелая трывога.

З таго боку, куды паехалі княжацкія калёсы, раптам пачулася тужлівая, як плач, песня:

***Ай, спадарыня, перапёлачка,***
***Ай, мая зорухна, маё сонейка,***
***Дай жа дзіцятку хоць бы зернетка,***
***Хоць бы лыжачку, хоць бы кропельку***
***Варыўца сырога-а-а-а...***

Дзверы ў хату былі ўсё яшчэ адчыненыя, і таму песня была добра чуваць. Небр адразу ж пазнаў, што спявае Бялуха — та самая Бялуха, якая даўнавата пайшла з сынам у лес на з'ядзенне ваўкам...

Ён хутка, як мог, выкульгаў на вуліцу і напраўду ўбачыў Бялуху — яна, перайшоўшы Добрае Поле, набліжалася да селішча. З аднаго боку за яе руку трымаўся сын, а з другога — нейкая дзяўчынка.

Калі Бялуха падышла бліжэй, у дзяўчынцы ён пазнаў сваю дачку і хутчэй пакульгаў насустрач.

— Дзе ты ўзяла Любімку? — спытаўся ён у Бялухі. — Яна ж паехала.

— Ля твайго моста.

— А дзе Вуляна?

— Пад мостам ляжыць. Коні яе забілі.

— Якія коні?

— Князевы. Яны ўпудзіліся.

— А хто іх спудзіў?

На гэтае пытанне Бялуха не адказала — яна адно роспачна загаласіла.

Мне здаецца, што я сам бачыў, як усё гэта адбывалася.

Коней, якія беглі трухам, вазатай не паспеў стрымаць, перавесці на звычайны крок — якраз бегам яны і ўзляцелі на леткі, раскатаны Небраў масток. І ў гэты час з правага боку, з кустоў, усхапілася раптам Бялуха, якая шукала там лебяды, чамусьці замахала сваім рыззём, прарэзліва закрычала. Коні ўпудзіліся, не зважаючы на напятыя лейцы, кінуліся ўлева, збілі падгнілую парэнчу, пападалі ў раку самі і пацягнулі за сабою калёсы з людзьмі. Я яшчэ раз сведчу, што ўсё гэта бачыў, помню і ў дэталях магу расказаць, як гэта адбывалася: як ламалася парэнча, як фыркалі коні, як раскотваліся бярвенцы пад коламі, як яны старчаком падалі ў раку. І як Вуляна ў самы апошні момант нагою спіхнула з калёс Любімку...

На наступны год летапісец запісаў: "Нічога не было. Было ціха".

Бялуха і Небр выгадавалі Любімку і Беража. Праўда, гадавалі яны больш за ўсё самі сябе — Бераж аказаўся вельмі кемлівым хлопчыкам, той жа год усё навучыўся рабіць сам — ставіць сіло на зайца, лавіць рыбу, знаходзіць пчаліныя гнёзды і раі. Не адставала ад яго і Любімка — яна ведала ешчыя травы, ірвала шчаўе ды крапіву, а ў грыбах не было ёй роўных.

Ніхто не сумняваўся, што дзеці, калі вырастуць, абавязкова пажэняцца: яны ж, як хадзілі, узяўшыся за рукі, малыя, так не расставаліся і цяпер — усюды толькі рука ў руцэ.

Іх за працавітасць і кемлівасць упадабалі ў маёнтку і забралі да сябе. А калі князь Зубрэвіцкі пахваліўся імі ў Друцку, іх перапрасілі ў Друцк — там якраз пасля чарговай аблогі трэба было падсыпаць абарончыя валы, падняўляць Дольны горад. А Бераж — знакаміты цяслер: гэтаму рамяству яго навучыў Небр. Вельмі радавалася пераезду Любімка — яна бачыла Друцк, пра які ёй столькі расказвала мамка! І як толькі здаралася вольная часіна, яна, як і маці, проста стаяла на дзядзінцы і проста глядзела на шырокія, разараныя палі за Друццю.

У Друцку яны мелі сваю гародню, а потым атрымалі ў валоданне Гарнастаі, Відзенічы, Радасну.

У іх было дзесяць дзяцей і ўсе хлопцы. Ніводнай, хоць бы на развод, дзяўчынкі!

Затое ў іхніх дзяцей раджаліся толькі дзяўчаты. З трох унукаў Любімкі і Беража, якія ў Друцкіх харугвах хадзілі на крыжакоў да Зялёнага Лесу, з Дубровенскай бітвы вярнуўся толькі адзін, апошні — двое другіх, старэйшых, на пачатку бою разам з коньмі ўваліліся ў воўчыя ямы.

Не вярнуўся з Зялёнага Лесу і муж Фенкі, Вулянінай праўнучкі. Маладую аўдавелую жанчыну ўпадабаў князь Мітка Сякіра, які на ўсіх сваіх паперах падпісваўся: "Дзмітрый Зубрэвіцкі". Ён узяў яе да сябе ў двор, а калі яна нарадзіла яму сына, падараваў ёй Тумініцкую пустку — якраз тую пустку, дзе стаяла калісьці хата Вуляны і Небра.

Кажуць, што мой прадзед Сямён гаварыў, што яго дзед Анціп усё ўспамінаў пра нейкага князя Валодшу, пра нейкі лал — рубінавы камень, што свяціўся. І яшчэ згадваў Мітку Сякіру, які, пастаўіўшы свой хорам, жыў у нашых Зубрэвічах...

Калі я бываю ў Друцку, заўсёды ўзбіраюся на высокае, вельмі высокае гарадзішча, дзе вецер пачынае ўжо, як ветразь, надзьмуваць сарочку, хаджу па ім, думаю, углядаюся адсюль, з вышыні птушынага палёту, удалячынь, за Друць, у зарэчныя лугі і палі, дзе, як і тады, ходзяць, працуюць маленькія, як мурашкі, людзі, і тады мне здаецца, што на друцкім замчышчы я не адзін і гляджу на ўсё не толькі сваімі вачамі — быццам са мною ходзіць і глядзіць яшчэ хтосьці іншы.

І я напраўду, здаецца, чую словы, якія нашэптвае мне нехта невідомы:

"А вось тут во жыў дзядзька Валодша. А во тут во стаяла царква. А во тут во была наша святліца, у якой жылі мы з сястрою"...

І яшчэ мне часам нясцерпна хочацца пашукаць той злашчасны Небраў мост цераз Вабіч, але я адганяю сябе, пакідаю гэта на потым:

"А навошта? Ты ж ужо і так калісьці, вельмі даўно, за смугою часу быў там і ўсё тое бачыў".

ПАМЯЦЬ

# Згадка пра паэта і "самашчырага беларусіна"

***"Дух літаратуры нашай змяніўся ў сэнсе светапогляду, — змяніўся да лепшага — эпоха новая, звязвае мінулае з будучым, а справу са словам. Больш уважліва заглядае ў хаты і куткі салонаў. Пераломным быў год васемсот пяцідзесяты", — чуйна адзначыў тэндэнцыю да дэмакратызацыі ў тагачаснай польскай літаратуры В. Дунін-Марцінкевіч. Якраз у гэты пераломны год, 15 сакавіка, у маёнтку Панчаны Дзісенскага павета нарадзіўся Войслаў Савіч-Заблоцкі. Упэўнены, што нават для засведчаных у беларускай літаратуры чытачоў імя гэта малазнаёмае. А шкада, бо ён пакінуў адметны след у гісторыі нашага пісьменства.***

Па сённяшні дзень з яго біяграфіі вядомы толькі асобныя факты. Нарадзіўшыся ў заможнай памешчыцкай сям'і, хлопчык рана застаўся бязбацькавічам, і такая акалічнасць у многім прадвызначыла яго характар і будучы лёс. Меркантыльныя звады паміж маці і дзедам па бацькавай лініі прывялі да таго, што дзіця, па сутнасці, было пазбаўлена сям'і і гадавалася пад апекай дваровых ці хатковых (чуў нехалі такое найменне ад адной бабулькі). Сапраўды, над сіратою бог з калітою; бог сіроты любіць, але долі не дае. Атрымаўшы па тым часе добрую для свайго паходжання адукацыю (скончыў Віленскую гімназію і няпэўны час вучыўся ў некалькіх замежных універсітэтах), Савіч-Заблоцкі ў прыватным жыцці засведчыў выдаткі ўласнага выхавання. Як можна меркаваць па ацэнках сучаснікаў, ён быў асобай ініцыятыўнай і імпульсіўнай. Чаго варты адзін пералік гарадоў і краін, у якіх яму давялося пажыць-пабываць: Пецярбург, Варшава, Кракаў, Парыж, Брусель, Аўстра-Венгрыя, Германія, Швецыя, Егіпет... "Такіх людзей, — нібы характарызуючы нашага героя, пісаў мемуарыст Л. Патоцкі, — раней называлі дзівакамі, пасля арыгіналамі. Сёння іх лічаць эксцэнтрычнымі". Бадай, яго натура па тэмпераменце была блізкай вядомым шукальнікам прыгодаў XVIII ст., такім, як наша зямлячка Саламея Пільштынова, аўтарка каларытных успамінаў "Авантуры майго жыцця". Ды, зрэшты, ці гэта галоўнае?

Колькі момантаў з біяграфіі. Па ўласным прызнанні, у 18 гадоў Савіч-Заблоцкі старшыня і ініцыятар стварэння ў Пецярбургу суполкі "Крывіцкі вязок", члены якой хацелі "хадзіць у народ", збіраліся друкаваць "беларускія букі" (кнігі. — **І. З.**) і прагнулі "ўшляхціць", г. зн. літаратурна апрацаваць беларускую мову. Верагодна, гэта быў першы беларускі народніцкі гурток, праграма якога вызначалася найперш выразнай нацыянальна-асветніцкай скіраванасцю. Такое пачынанне выклікала незадаволенасць і карныя меры ўрада. Праз 5 гадоў, знаходзячыся ўжо ў Варшаве, нясконаны і верны ідэі нацыянальнага будзіцельства малады чалавек робіць даволі наіўную і адначасова смелую спробу надрукаваць свае беларускія вершы. Ён выдатна разумеў неардынарнасць такога кроку, калі пісаў пецярбургскаму рэдактару вядомага часопіса: "Нехта шле ў "Вестник Европы" навуковыя працы, ... я — некалькі вершаў на беларускай мове... Гэта дзіўна, ці не так?" У тым жа лісце ён прызнаваўся: "Беларусі для мяне было замала". Яшчэ праз 2 гады яму стала "замала" і ўсёй агромністай Расійскай імперыі. У 25-гадовым узросце (незразумела — для лячэння, як дысідэнт або з-за матэрыяльных нягодаў) наш максімаліст і летуценнік ідзе ў свет, "у бездарожжа" і 12 гадоў вандруе па еўрапейскім кантыненце, зарабляючы на хлеб пераважна журналісцкай працай. І на чужыне ён не забывае і не кідае роднага слова: у 1882 г. беларускім вершам вітае польская паэта Б. Залескага, тады ўжо 80-гадовага юбіляра, у 1886 г. пабеларуску піша некалькі лістоў дзеячу ўкраінскай культуры М. Драгаманаву. У адным з гэтых лістоў ён, нібы спавядаючыся, з сумам канстатаваў: "...Злыя людзі і польскія дурні брахалі на мяне; тай, меўшы па горла парадкаў нашых, хворы, выехаў з за граніцу ўжо сапраўды лячыцца і ніколі ўжо не вярнуцца, як аказалася. Цяпер, пан з паноў, ні кала ні двара, ні псячай нават будкі не маю". Падпісваючы свае лісты, аўтар, здаралася, дадаваў да прозвішча тытул "граф" і самахарактарыстыку — "самашчыры беларусін". Відаць, крайняя галеча і неўладкаванасць прымусілі Савіча-Заблоцкага ў 1887 г. вярнуцца на радзіму. Але ён і тут не супакойваецца — канфліктуе, кідаецца ў крайнасці... Пасля 1893 г. яго лёс даследчыкам увогуле не вядомы.

Тэксты трох дасланых у 1873 г. у "Вестник Европы" вершаў Савіча-Заблоцкага — "З чужбіны", "У роднай зямлі", "Да перапёлкі" — упершыню былі апублікаваны ў часопісе "Беларусь" яшчэ ў 1946 годзе. З таго часу яны неадночы ўключаліся ў хрэстаматыі па гісторыі беларускай літаратуры, але, на жаль, нікім дагэтуль не аналізаваліся. З пункту гледжання паэтычнай тэхнікі — гэта не шэдэўры, але, без сумнення, яны ўяўляюць сабой найбольш ранія па часе прыклады пейзажнай і медытатыўнай лірыкі ў беларускай паэзіі XIX ст. З усяго корпуса беларускамоўных тэкстаў гэтага перыяду іх вылучае і тое, што яны, па вялікім рахунку, напісаны не для сялян і не пра сялян. У іх адлюстраваны засяроджаны і прасякнуты тонкім настроем настальгіі роздум лірычнага героя над уласным нешчаслівым лёсам, які быў абумоўлены такім жа гаротным лёсам яго бацькаўшчыны. У вершы "З чужбіны" нараканні лірычнага героя, які горка плача і сумуе па "родных нівах", прадчуваючы, што памрэ на "тым беразе", пераходзяць у ацэнку адносін паміж Беларуссю і Польшчай, якая выступае ў творы ў вобразе зязюлі. Гэты вобраз птушкі, што падкідае сваіх дзяцей іншым, не адкрыта, але выразна проціпастаўлены алегарычнаму вобразу перапёлкі, якая сімвалізуе Беларусь і да якой звяртаецца лірычны герой верша "Да перапёлкі". Такая маштабнасць тэмы (і гэта ў 70-я гады, калі да Багушэвіча было яшчэ вельмі далёка) з'ява без парабольшання адзінкавая ў тагачаснай літаратуры. Каларытныя па мове і багатыя паводле зместу лісты пісьменніка да М. Драгаманава, упершыню апублікаваныя ў 1988 г., таксама яшчэ амаль не асэнсаваны ў беларускім літаратуразнаўстве, хаця ў іх знайшлі адлюстраванне як палітычныя погляды аўтара, так і цікавыя факты яго біяграфіі.

Савіч-Заблоцкі прытрымліваўся ідэй славянафільства і лічыў, што беларусы займаюць адметнае месца ў сям'і славянскіх народаў. І свае творы на польскай мове (паэму "Аповесць пра мае часы" (1876) пра пярэдадзень паўстання 1863 г. на Беларусі, гістарычную аповесць "Полацкая шляхта" (1885) ён прысвячаў беларускім рэаліям. З-за беларускага патрыятызму, незразумелага для палякаў і рускіх, да яго пераважна варожа ставіліся як адны, так і другія. Гэты вялікі ідэаліст і пажыццёвы пакутнік часта не знаходзіў паразумення і з землякамі. Тым не менш, як чалавек бясспрэчна таленавіты і неардынарны, які валодаў некалькімі еўрапейскімі мовамі і шмат пісаў на іх, а ў перыяд культурнай стагнацыі прыкладаў намаганні для развіцця беларускай літаратуры, Войслаў Савіч-Заблоцкі варты не толькі нашай увагі, але і пашаны.

**Ігар ЗАПРУДСКІ**



*Паміж небам і зямлёй...* *Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

# "Зьніч": магія мелодыі і рытму

**_Субкультура, контркультура, культура "падзямелля", андэграунд — гэта ўсё азначэнні вельмі дынамічнай, а часам і спрэчнай мастацка-сацыяльнай з'явы, руху, якія аб'ядноўвае творцаў розных мастацкіх кірункаў. У асноўным прадстаўнікоў маладзейшай генерацыі мастакоў, літаратараў, музыкаў. Па нейкіх прычынах яны не ўпісваліся ў агульнапрынятую мастацкую прастору. Публіка, крытыка спрачаюцца пра мастацкія вартасці твораў андэграунда. Тым не менш, прадстаўнікі гэтай мастацкай фармацыі робяць вельмі шмат для таго, каб нашае культурнае жыццё стала больш насычаным ды багатым..._**

**_Гурт "Зьніч" і яго кіраўнік Алесь Таболіч — адзін з яскравых прадстаўнікоў беларускага андэграунда. Музыкі спалучаюць экстрэмальныя кірункі сучаснага метал-року і фальклорныя мелодыі паганскіх часоў і дасягнулі ў гэтым сінтэзе немалых поспехаў і вядомасці. Пра тое, якімі шляхамі ідуць музыкі да іх, мы гутарым з франтмэнам "Зьніча" Алесем ТАБОЛІЧАМ._**



**— Спадар Алесь, экстрэмальны метал-рок-гурт "Зьніч" у сваёй творчасці абапіраецца на старадаўні беларускі фальклор. Але аматары і прафесіяналы, звязаныя з народнай песеннай творчасцю, не заўсёды з прыхільнасцю ставяцца да такіх форм перапрацоўкі фальклору, якія спавядае гурт "Зьніч". Што б вы хацелі сказаць сваім уяўным крытыкам наконт вашага права мадэрнізаваць старажытныя песні беларусаў у сучасных экстрэмальных музычных традыцыях?**

— Экстрэмальная музыка — гэта музыка нашых эмоцый, якая ідзе з нашых душаў. Тое, што мы граем, і ёсць нашыя пачуцці і памкненні. Мы пераўвасабляем і пераўтвараем як экстрэмальную, так і фальклорную музыку, накладваем, дакладней, сінтэзуем старадаўнія паганскія традыцыі і сучасны цяжкі рок.

І калі гэта робяць іншыя гурты ды ансамблі, такія, як "Песняры", "Троіца", дык яны бяруць народную песню і займаюцца яе музычнай рэстаўрацыяй. Мы ідзём іншым шляхам — сінтэзуем старыя традыцыі і рытмы сучаснай экстрэмальнай музыкі, робім штосьці сваё. Мы лічым, што гурты, нават калі яны выкарыстоўваюць фальклорную аснову, павінны адрозніваецца адзін ад аднаго. Рабіць тое, што робяць у музыцы іншыя, нам папросту не трэба.

**— Чаму, на ваш погляд, так прыцягвае сучасных выканаўцаў, у тым ліку і гурт "Зьніч", беларускі фальклор? У чым яго глыбінная сіла?**

— Беларускі фальклор адрозніваецца ад фальклору іншых народаў, перш за ўсё, тым, што большая частка ў ім — творы рытуальныя. Успомнім унікальны палескі абрад "Пахаванне стралы", які захаваўся толькі на тэрыторыі Беларусі. Наш фальклор такі глыбокі, што любыя стасункі з яго вытокамі — гэта вяртанне да магіі вякоў, мастацкай завершанасці, духоўнасці, прыгажосці...

Я і ўсе сябры гурта "Зьніч" успрымаюць старажытную песню як нешта блізкае да паганскай магіі: заклінанняў, загавораў, галашэнняў...

Мы вырашылі сінтэзаваць цяжкую рок-музыку і фальклор паганскіх часоў яшчэ і таму, што паганская культура — гэта перш за ўсё рытм, а не толькі мелодыя. І мы зрабілі так, каб гэтая музыка і рытм нейкім станоўчым чынам уплывала на пачуцці моладзі, на яе эмоцыі, каб у музыцы прысутнічаў элемент эмацыянальнага ўсплёску, рытуальнага дзеяння... Наш музычны накірунак можна назваць сімбіёзам арт-фолк-дэз-металу.

**— Праграма гурта "Прадчуванне вясны", якую не так даўно музыкі прэзентавалі ў клубе "Рэактар", была прыхільна сустрэта як слухачамі, так і музычнымі крытыкамі. Ці хутка мы зможам праслухаць яе на кампакт-дыску?**

— На сённяшні дзень мы маем "адкатаную", новую праграму, якая спалучае адзначаныя раней якасці музыкі мінулага і сучаснасці, сінтэзаванай у экстрэмальным рэчышчы. Думаю, атрымалася нешта арыгінальнае ў музычным плане і такое, што будзе цікава для слухачоў. Гэта заслуга новых музыкаў гурта: Д. Галіцкага (бубны), П. Заручэўскага (бас-гітара), С. Малініна (гітара), Н. Валынца (вакал).

Думаю, што ўвосень мы выпусцім кампакт-дыск. Назоў, спадзяюся, будзе звязаны з беларускім фальклорам. А сёння мы можам прапанаваць нашыя ранейшыя альбомы на касетах "Язычнік Я" і "Дых зямлі", а таксама апошні сінгл "Прадчуванне вясны".

**— "Зьніч" адзін з нямногіх беларускіх гуртоў, які не замыкаецца толькі на музычнай дзейнасці: выдае свой часопіс-фанзайн "Сотвар", стварыў сайт у Internete... Што, грошы няма куды дзець, альбо гэта, сапраўды, покліч часу?**

— Наш гурт быў з канцэртамі і на Украіне, і ў Польшчы — і там з захапленнем глядзяць на тое, што ў музычным плане ёсць у Беларусі. Для таго, каб нас ведалі ў Еўропе, вельмі важна з дапамогай найноўшых камунікацыйных сродкаў пашыраць інфармацыю пра наш музычны андэграунд. І тое, што мы робім свае зайн, вэб-сайт — гэта не даніна модзе, а жаданне, каб пра нас, пра беларускую сучасную культуру, ведалі як мага больш людзей у свеце. Мы лічым, што ў кожнага гурта павінна быць і старонка ў Internete, і часопіс, бо без гэтага немагчыма дасягнуць нейкага поспеху. А нам — беларускім гуртам ён вельмі неабходны!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### ЭКРАН

**Беларускае тэлебачанне**

*4 жніўня, пятніца, 17.10* — "А музыка гучыць" пра 3-ці фестываль нацыянальных культур у Гродне.

*4 жніўня, пятніца, 21.50* — Гала-канцэрт артыстаў эстрады Беларусі і Расіі на міжнародным фестывалі "Магілёўская вясна-2000".

*8 жніўня, аўторак, 16.20* — "Творцы" да саракавінаў народнага артыста Беларусі Мікалая Яроменкі.

*12 жніўня, субота, 8.10* — "Малітвамі ўсяленскай заступніцы", тэленарыс, прысвечаны адкрыццю праваслаўнага прыходу ў гонар абраза Божай Маці "Нявыпітая чаша".

*12 жніўня, субота, 12.10* — "Кнігазбор" знаёміць з новымі выданнямі, сярод якіх гэтым разам кнігі Уладзіміра Шаліхіна "Сэрца памятае", П. Бесона "Сям'я Брабанаў", Алены Лось "Дзесяць дзён у барку".

### ВІДЭАКЛУБ ТБМ

*5 жніўня, субота, 18.00*— у тэбээмаўскай сядзібе на Румянцава, 13 пакажуць дакументальна-публіцыстычны фільм беларускае вытворчасці 1995 года "Насустрач Пагоні".

### РАМПА

Мінскім тэатралам сюрпрыз. *6 жніўня, у нядзелю, а 19-ай гадзіне* на "Вольнай сцэне" можна паглядзець новы спектакль гэтага тэатра "Блазан". Кажуць, гэта пастаноўка выкліча яшчэ больш моцны рэзананс, чымсьці "Узлёт Артура Уі, які можна было спыніць" ці выкінуты Мінкультам з рэпертуару "Прынц Мамабук".

### ВЫСТАВЫ

У Палацы мастацтваў працуе персанальная выстава мастака Я. Рыжкова, прымеркаваная да яго 80-годдзя, а ў Музеі сучаснай скульптуры імя Бембеля можна паглядзець таксама "персаналку" — "Масты Парыжа" А. Родзіна.

ПАРОДЫІ

Аляксей КАЎКО

# Утомная задуха

ПАВОДЛЕ Леаніда КАЛОДЗЕЖНАГА

Над вёскай Старыя Атопкі вісіць разамлелае сонца. Ад спякоты аблыселы калган сямідзесяцідзевяцігадовага Халімона Латушкі блішчыць, як памазаны здорам блін. Тлумна чамадурыць водар нагрэтага палыну, што бучнымі кустамі прыляпіўся да трухлявага паркану, гаркотай казыча ў загагулістым носе. Але не менш, чым утомная задуха, даймае старога жонка — сямідзесяцічатырохгадовая Сынклета. Гэта ж трэба, чортава калатоўка, не ўцяміла, што ён цэлую ноч лунаціў, не дала днём вачэй звесці, узняла вэрхал. Усё скубецца, што пенсія ў яго малая, бізнесменам не стаў. Ах ты, капуха няшчасная! Бач, панароўку памела... Калі ты ўжо такая мармухлетка, то кандзёхай прэч, няма чаго пыпліцца, гужуйся сама! Я і без цябе перамінжуюся, не выпендрывайся вельмі...

Седзячы на прызбе, Халімон прыгадаў, як Сынклета ад гэтых яго слоў аж падгупнула, зашумархала трантамі і марсянула за парог:

— Нудзей адзін, прытырак лапавухі! Скалей тут, хабёл!

Спёка мацнела, і Халімон ужо наважыўся адзадкаваць у хату, але тут скмеціў, што ў двор клыпае гэты захірэлы шыбздзік — Пахом Таўкач, якому яшчэ летась выразалі ў бальніцы нырку і палавіну страўніка.

— Чаго нюхаўку звесіў? — прагугнявіў Пахом, працягваючы Халімону заскарузлую руку.

— Ды так... Сынклета мая лыч закапыліла, у прочкі сіганула...

— Я ж і талкую, што адно ўрадзіцельства ад гэтых баб. Эх, шкорадзі!.. Ды толькі той бяды! Нідзе не дзенецца, прыцялёпкаецца назад. Давай во глынем па кроплі. Я прыхаваў ад сваёй цяцеры бутэльчыну...

Выпілі, пабалабонілі... Сонца пасля знурлівай сквары пасунулася далей, за Кабылякі, а там і за Люцькаўшчынскі лес.

На дворы пасвяжэла.

*г. Іванава*




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фота-карэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 3.08.2000 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3937.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12